**БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ**
**з вёскі Глыбокага**
**ў Лідскім павеце Віленскай губерні,**
**у 1885 годзе запісаныя Уладзіславам Вярыгам**

**АСТРЫНСКІ ПРЫХОД ВІЛЕНСКАЙ ГУБЕРНІ**
**ЛІДСКАГА ПАВЕТА**
**Прафесар Літоўскай семінарыі І. Юркевіч, 1853 г.**

**ДАЖЫНКІ У ШАЎРАХ ЛІДСКАГА ПАВЕТА**
**Бірута, 1887 г.**

**Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета XIX стагоддзя**. Этнаграфічны зборнік, 2023 г. На беларускай мове. Ліда, 72 с.
Выданне часопіса “Лідскі летапісец” і ДУ “Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці”.
Укладальнікі: Леанід Лаўрэш, Станіслаў Суднік.
Рэдактар: Станіслаў Суднік.

У зборнік уключаны этнаграфічныя публікацыі, зробленыя ў 19-м стагоддзі на аснове матэрыялаў, сабраных у былым Лідскім павеце Уладзілавам Вярыгам, І. Юркевічам і Бірутай.

**На першай старонцы вокладкі:** Зыгмунт Айдукевіч. "Лернік", 1898 г. Эскіз алеем у шэра-блакітных танах з белым узмацненнем (фрагмент).
**На чацвёртай старонцы вокладкі:** Лернік на Купаллі ў Лідзе, 2019 г.

Ⓛ Ліда, 2023

# Беларускія думкі, як фальклорна-літаратурны жанр

**“БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ з вёскі Глыбокага ў Лідскім павеце Віленскай губерні, у 1885 годзе запісаныя Уладзіславам Вярыгам”**, і апублікаваныя ў 1889 годзе - гэта не спіс вынікаў працы мазгоў чалавечых, не мыслі, не разважанні, гэта невялікія балады. Слова “думка” тут - памяншальная форма ад слова “дума”.

Дума, як жанр вуснай народнай творчасці, была характэрная найперш для Украіны. Тут гэта - лірыка-эпічны твор украінскай вуснай славеснасці пра жыццё казакоў XVI-XVIII стагоддзяў, які выконвалі вандроўныя спевакі-музыкі: кабзары, бандурысты, лірнікі ў Цэнтральнай і Левабярэжнай Украіне. Аналаг гістарычных песень у рускім фальклоры. У навуковую тэрміналогію назву "думы" ўвёў М. Максімовіч, які разумеў іх як свайго роду казацкі эпас. Найболей ярка ў думах адлюстраваны перыяды барацьбы казакоў з туркамі, татарамі, палякамі і іншымі вонкавымі ворагамі.

Як жанр літаратуры дума ўяўляе сабою лірыка-эпічны твор, падобны да балады, у якім выяўлены разважанні аўтара на сацыяльныя, філасофскія і сямейна-побытавыя тэмы. Кампазіцыйна дума падзяляецца на дзве часткі - жыццяпіс і маральны ўрок, які вынікае з яго. Прысутныя ў творы лірычны (аітацыйны) і эпічны (агіяграфічны) пачаткі цесна ўзаемазлучаны, пры гэтым першы з іх з'яўляецца галоўным, а другі іграе падпарадкаваную ролю.

У рускай літаратуры жанр думы не атрымаў шырокага распаўсюду. Найболей часта ён сустракаецца ў творчасці Кандрата Рылеева. У яго кнігу "Думы" ўвайшлі такія творы, як "Барыс Гадуноў", "Іван Сусанін", "Марфа Пасадніца", "Міхаіл Цвярскі", "Смерць Ярмака" і інш. Сваю першую думу "Курбскі" паэт-дзекабрыст апублікаваў з падзагалоўкам "элегія", і толькі, пачынальна з "Артэмона Мацвеева" ва ўжытак увайшло новае жанравае азначэнне - дума. Элегічныя матывы

ў паэзіі Рылеева адзначалі шматлікія сучаснікі. Крытык П. А. Плятнёў ахарактарызаваў новы жанр як "лірычны аповяд якой-небудзь падзеі", а па меркаванні Бялінскага “дума ёсць трызна гістарычнай падзеі ці проста песня гістарычнага характару”. Сам жа Рылееў асабліва падкрэсліваў, што абраны ім жанр мае славянскае паходжанне. У прадмове да свайго зборніка ён пісаў: "Дума - старадаўняя спадчына ад паўднёвых братоў нашых, наша рускае, роднае вынаходства. Палякі запазычылі яе ад нас. Яшчэ дагэтуль украінцы спяваюць думы пра герояў сваіх: Дарашэнку, Нячая, Сагайдачнага, Палея, і самому Мазепе прыпісваецца складанне адной з іх".

Спрабуючы стварыць шырокую панараму падзей, Кандрат Фёдаравіч у сваіх творах ставарае манументальныя вобразы гістарычных герояў і звяртаецца да мовы грамадзянскай паэзіі XVIII - пачатку XIX ст.ст. Сваёй задачай паэт лічыць абуджэнне патрыятызму і свабодалюбнасці. Пры гэтым пэўны малюнак падзей і людзі, якія ўдзельнічаюць у іх, адыходзіць на другі план.

У беларускім фальклоры і літаратуры думы не знайшлі амаль ніякага адлюстравання, як быццам такога жанру і не было ў нас ніколі. І вось цэлы зборнік (42 тэксты) думак, запісаных Уладзіславам Вярыгам.

Уладзіслаў Вярыга не назваў запісаныя ім тэксты думамі, а толькі думкамі - маленькімі думамі. Выклікана гэта хутчэй за ўсё тым, што памеры тэкстаў невялікія, сюжэты простыя, амаль заўсёды аднаактавыя. Як правіла, у думцы дзве часткі: зачын і завяршэнне. І калі ўкраінскія народныя і рускія літаратурныя думы можна атаясаміць з гістарычнымі баладамі і паэмамі, якія ў сваёй сукупнасці ствараюць эпічныя палотны жыцця народаў і краін, то беларускія думкі - гэта нешта іншае. Іх нельга размясціць у гістарычнай паслядоўнасці, іх наогул цяжка прывязваць да часу. Недзе XVIII - XIX стагоддзі.

Думка амаль заўсёды апісвае нейкую падзею або з’яву, што выбіваецца з роўнай і манатоннай плыні жыцця. Падзеі гэтыя амаль заўсёды трагічныя, нават калі завяршэнне выглядае пазітыўным. Шмат бедаў было ў жыцці беларусаў: войны, пажары, эпідэміі, засухі, але што пра іх казаць, а тым больш спяваць. Яны непазбежныя, як бы абавязковыя. Але былі беды не абавязковыя, выкліканыя дурасцю, сквапнасцю, хцівасцю, зайздрасцю, злосцю, слабасцямі чалавечымі (п’янствам, разбоем). Вось гэтыя беды, падзеі, з імі звязаныя, выбіваліся са штодзённасці. Найбольш частыя: злая свякроўка, здрадлівая жонка, няшчасная праз каханне дзяўчына, падманутая дзяўчына, забраны ў рэкруты хлопец, забіты жаўнер, смерць з align рознай нагоды. Такім чынам

беларускія думкі - гэта таксама эпас, эпас бяды і гора, якія сустракалі беларуса на кожным кроку. І прычыны гэтых бедаў і гора не ў хцівасці ці сваволі паноў, не ў Божай кары для народа, не ў панаванні чужога караля ці цара, а ва ўнутраным бязладдзі і грахоўнасці чалавека. Калі б людзі былі без граху, то ні адной думкі з гэтага зборніка не існавала б. Нават думка № 28, якая ёсць варыянтам шырока вядомай гісторыі пра бандароўну і пана канюшага, падае прычыну трагічнай развязкі не ў адной толькі сваволі пана канюшага, а і ў тым, што бандароўна спачатку брала падарункі ад пана канюшага, а потым вырашыла ўцячы. Ну, і паплацілася жыццём. Янка Купала напіша сваю "Бандароўну" ў 1913 годзе і аднясе падзеі на Украіну. Тэкст жа пра бандароўну, аказваецца, бытаваў спакойна ў беларускім фальклоры яшчэ ў 19-м стагоддзі, а можа, і раней, і без усякага намёку на Украіну, наадварот, тут згадваецца ашмянская шляхта. І, па ўсім відаць, Янка Купала ведаў гэты ці падобны тэкст.

Уладзіслаў Вярыга запісваў думкі з голасу, на слых. Запісваў так, як чуў. Мы не ведаем, якой графікай гэта рабілася: кірыліцай ці лацінкай. Заканчваў Вярыга Пецярбургскую гімназію, рускую мову ведаў дасканала. Але сын ссыльных паўстанцаў 1863 года, безумоўна, ведаў і польскую мову. Надрукаваны думкі былі польскай лацінкай у польскім часопісе "Збор звестак па краёвай антрапалогіі, выдадзены стараннем Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве. Том XIII" у


ZBIÓR WIADOMOŚCI
DO
ANTROPOLOGII KRAJOWEJ
WYDAWANY STARANIEM
KOMISYI ANTROPOLOGICZNEJ
AKADEMII UMIEJĘTNOŚCI W KRAKOWIE.
TOM XIII.
(Z 6. tablicami.)
W KRAKOWIE.
DRUKARNIA UNIWERSYTETU JAGIELLOŃSKIEGO
pod zarządem A. M. Kosterkiewicza.
1889.

***Збор звестак па краёвай антрапалогіі, выдадзены стараннем Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве. Том XIII (з 6 табліцамі). У Кракаве, друкарня Ягелонскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам А.М. Кастаркевіча, 1889.***

1889 годзе. Надрукаваны без усякага намёку на нейкую беларускую граматыку. І мы бачым тэксты на амаль сучаснай літаратурнай беларускай мове, але з абсалютна бессістэмным прымяненнем *а-кання, я-кання, ь, ў* і *й*. Запісаны архаічным беларускім правапісам. Пры гэтым празмернае *а-канне* і *я-канне* часта вядзе да такога скажэння слова, што не адразу можна здагадацца пра сапраўднае сучаснае гучанне і сэнс. Тым не менш, для гэтай публікацыі зроблена дакладная транслітарацыя, нягледзечы на адхіленні ад сучасных літаратурных нормаў. Была праведзена толькі невялікая карэкцыя знакаў прыпынку. На ўсе 42 тэксты сустракаецца некалькі русізмаў і некалькі паланізмаў. Пры гэтым паланізм *dzis* дажыў да нашага часу і часта чуцён на Лідчыне і сёння. У астатнім тут простая, без выкрунтасаў беларуская мова.

Мы дадаём да зборніка Уладзіслава Вярыгі яшчэ дзве публікацыі.

Гэта “Астрынскі прыход” (Віленскай губерні Лідскага павета) прафесара Літоўскай семінарыі І. Юркевіча. Нарыс быў апублікаваны ў Этнаграфічным зборніку, які выдаецца Імператарскім рускім геаграфічным таварыствам. Выпуск 1. Санктпецярбург, 1853. С. 283-293. *(Юркевич И. Остринский приход // Этнографический сборник, выдаваемый Императорским русским географическим обществом. Выпуск 1. Сантпетербург, 1853. С. 283-293.)* Калі меркаваць па даце публікацыі, то гэта самы ранні этнаграфічны матэрыял з Лідчыны ў шырокім доступе.

Другая публікацыя “Дажынкі ў Шаўрах Лідскага павета” належыць Біруце (Амеліі Даравінскай). Абрад Дажынак яна запісала ў 1887 годзе ў маёнтку Баляслава Нарбута, сына Тодара Нарбута. Баляслаў Нарбут у паўстанні 1863 года быў ад’ютантам Людвіка Нарбута, быў сасланы ў Сібір. Маёнтак Шаўры быў секвестраваны, але, як бачым, нейкім чынам вярнуўся да Нарбутаў. Бірута апублікавала нарыс у 1889 годзе ў польскім часопісе “Вісла”. *(Biruta (Amelia Derewinska). Dozynki na Litwie, Szawry, pow. Lidzki // Wisla. 1889. T. III. z. 1. S. 92-94)*.

Такім чынам у аварот паступае трэці лідскі фальклорна-этнаграфічны зборнік.

***Станіслаў Суднік.***

# БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ

**з вёскі Глыбокага**
**ў Лідскім павеце Віленскай губерні,**
**у 1885 годзе запісаныя**
**Уладзіславам Вярыгам**

# DUMKI BIAŁORUSKIE

ze wsi Głębokiego

w powiecie Lidzkim gubernii Wileńskiej

w r. 1885 spisane

przez

**Władysława Weryhę.**



1.

Oj žanà muža nia zalubiła,
Nia zalubiła, daj zahubiła,
Pałažyła daj ŭ kamory pad aknòm,
Daj nakryła tonkim biełym pałatnòm.
„Pryjèchali daj hošci mai,
Pryjèchali dziawiaratka mai“.
„Ty, bratowa, ty labiòduszka nasza,
Da szto ŭ ciabiè da za kroŭ na dwarè?“
„Wy, dziawiarjè, dziawiaratka mai,
Ja rèzała husi, kury na dwarè,
Dažydała ja haściėj darahich“.
„Ty, bratowa, ty labiòduszka nasza,
Da szto ŭ ciabiè da hošci byli?“
„A z wiaczora wiaczarnicy byli,
A s paŭnoczy rybałoŭcy byli,

# Лідскія сцежкі Уладзіслава Вярыгі



Філосаф, этнограф і збіральнік беларускага фальклору Уладзіслаў Вярыга нарадзіўся 9 чэрвеня 1868 г. у Пскове, дзе жыла яго сям'я пасля канфіскацыі за ўдзел у паўстанні 1863-64 гг. маёнтка каля Полацка.

У 8 гадоў Уладзіслаў страціў бацькоў і далей гадаваўся пад апекай бабулі. У 1878 г. паступіў у Пскоўскую і праз некалькі гадоў перайшоў у Пецярбургскую гімназію, якую скончыў у 1885 г.

Як хатні настаўнік паміж 1885 і 1889 гадамі працаваў у Беларусі. Якраз на гэты час і прыходзіцца яго вывучэнне беларускай этнаграфіі.

Не больш за пяць гадоў прабыў Уладзіслаў Вярыга на Лідчыне, але для нас ён назаўсёды застанецца збіральнікам нашаага фальклору, слаўным сваёй працай, выкананай яшчэ ў зусім маладыя, даўніверсітэцкія гады. Свае нарысы пра фальклёр ён спачатку змяшчаў у часопісе "Вісла", які рэдагаваў Ян Карловіч.

У 1889 г. у Львове Вярыга выдаў кнігу "Беларускія паданні" ("Podania bialoruskie"), дзе змясціў 23 беларускія народныя казкі, запісаныя ў 1884 г. у ваколіцах Новага Двара і Астрыны Лідскага павета. Рэдактарам кнігі і аўтарам уступу да яе быў Ян Карловіч.

У 1889 г. у часопісе "Збор звестак па айчыннай антрапалогіі" ("Zbior wiadomosci do antopologii krajowej" 1889. Т. 13.) Уладзіслаў Вярыга апублікаваў працу "Беларускія думкі з вёскі Глыбокае Лідскага павету Віленскай губерні, запісаныя ў 1885 годзе", якая змяшчае 42 беларускія народныя песні-балады.

Таксама ён з'яўляецца аўтарам працы "Латышскія паданні" (W. Weryho, Podania lotewskie, Biblioteka "Wisly", t. 10, Warszawa 1892).

Далейшыя шляхі-дарогі Уладзіслава Вярыгі праляглі за межамі Лідчыны. У 1889 г. ён пачаў навучанне ў Берлінскім універсітэце, потым вучыўся таксама ва ўніверсітэтах Прагі і Берна - тут ён у 1892 г. на падставе прадстаўленай дысертацыі "Маркс як філосаф" (Marx als Philosoph) атрымаў ступень доктара філасофіі (PhD). Вярнуўшыся, Вярыга прысвяціў сябе арганізацыі філасофскага жыцця ў Польшчы.

Як філосаф, Уладзіслаў Вярыга выяўляў стрыманасць у адносінах да філасофскіх сістэм, якія стваралі цэласнае бачанне свету, не адмаўляючы пры гэтым іх пазнавальнай ролі. Ён сцвярджаў, што нават самыя крайнія і аднабаковыя погляды могуць быць навукова плённымі. У якасці прыкладаў Вярыга прыводзіў погляды Артура Шапенгаўэра і Эдуарда Гартмана - аднабаковасць першага ён бачыў у тым, што той усё тлумачыў адным прынцыпам, які атаясамліваў з воляй, а другі асновай быцця лічыў несвядомы духоўны пачатак чалавека. Гэтая аднабаковасць сістэмаў абодвух мысляроў не змяняла таго факту, што Шапэнгаўэру мы абавязаны больш глыбокім разуменнем волі, а Гартману - больш глыбокім разуменнем чалавечай падсвядомасці - лічыў Вярыга. Сярод філасофскіх вучэнняў, якім ён прысвяціў сваю ўвагу, была і філасофія Карла Маркса. Уладзіслаў Вярыга адмаўляў яе арыгінальнасць, сцвярджаючы, што філасофія Карла Маркса грунтуецца на тых жа прынцыпах, што і філасофія Гегеля, а адрозненні паміж імі зводзяцца да адрозненняў у тэрміналогіі.

Асноўнымі сферамі філасофскіх зацікаўленняў Вярыгі былі гнасеалогія і метадалогія навук. У сувязі з гэтым ён надаваў вялікае значэнне супрацоўніцтву філосафаў з вучонымі іншых спецыяльнасцяў і пастуляваў неабходнасць спецыяльных студыяў ў кожным з накірункаў універсітэцкіх даследаванняў, мэтай такіх студыяў павінна было б стаць вывучэнне філасофскіх і метадалагічных асноў розных навук і педагагічная дзейнасць у гэтых галінах.

Уладзіслаў Вярыга адхіляў ідэалістычныя ўстаноўкі польскіх гегельянцаў пра тое, што польская філасофія павінна нарадзіцца з нейкага духу нацыі пасля краху еўрапейскай філасофіі. Ён не быў пазітывістам, але падтрымліваў у філасофіі дамінуючую ў той час грамадзянскую ідэю арганічнай працы, распрацаваную польскімі пазітывістамі ў XIX ст.

У 1897 г. Вярыга заснаваў штоквартальнік "Przeglad Filozoficzny" ("Філасофскі агляд") - першы прафесійны філасофскі часопіс у Польшчы і да сваёй смерці быў яго выдаўцом і рэдактарам. "Філасофскі агляд" ахопліваў усе філасофскія дысцыпліны, а таксама разглядаў пытанні на мяжы філасофіі і іншых навук. Часопіс не быў органам аднаго накірунку

але быў даступны ўсім філасофскім школам пры ўмове, што яны былі правільнымі з пункту гледжання метадалагічных патрабаванняў. Акрамя навуковых задач, Вярыга ставіў перад гэтым выданнем дыдактычныя мэты, сваім зместам выданне звярталася не толькі да спецыялістаў у галіне філасофіі і навукоўцаў, але і да кожнага адукаванага чалавека. "Філасофскі агляд" стаў адным з найважнейшых фактараў развіцця філасофіі ў нашым краі таго часу.

Адным з пачынанняў, накіраваных на ўзбагачэнне жыцця філасофіі, была арганізацыя Вярыгам псіхалагічна-філасофскай секцыі на IX-м (у 1900 г. у Кракаве) і X-м (у 1907 г. у Львове) з'ездах лекараў і натуралістаў. Гэтым быў пакладзены пачатак пазнейшых агульных філасофскіх з'ездаў.

Уладзіслаў Вярыга таксама з'яўляўся ініцыятарам, стваральнікам і старшынём заснаванага ў 1907 г. Польскага псіхалагічнага таварыства (Варшава), якое, нягледзячы на абмяжоўваючаю яго назву, навязаную царскімі ўладамі, вяло і дзейнасць у галіне філасофіі. Па яго ініцыятыве гэтая дзейнасць выйшла за рамкі Таварыства праз шматлікія цыклы філасофскіх лекцый і публічных чытанняў.

Вярыга ўдзельнічаў у стварэнні (у 1907 г.) Таварыства даследавання дзяцей і быў яго віца-прэзідэнтам. У 1911 г. пры Псіхалагічным таварыстве ён стварыў Псіхалагічную лабараторыю, якая ў 1913 г. была ператворана ў незалежны Варшаўскі псіхалагічны інстытут, які займаўся даследаваннямі ў галіне псіхалогіі і асабліва эксперыментальнай псіхалогіі. У 1913 г. прымаў удзел у стварэнні (а затым быў членам) Камісіі вывучэння гісторыі філасофіі ў Польшчы пры Кракаўскай Акадэміі ведаў. У 1915 г. заснаваў у Варшаве Інстытут Філасофіі і быў яго старшынём.

Памёр Уладзіслаў Вярыга 28 жніўня 1916 г. у Варшаве.

А зараз трошкі з гісторыі мясцін, дзе Уладзіслаў Вярыга збіраў беларускія паданні і песні.

# Глыбокае

Царква ў Глыбокім падчас візітацыі 1681 г. адносілася да Лідскага дэканату (пратапопіі).

У акце візітацыі 1696 г. запісана: *"Вялебны а. Пётр Багдановіч, празбітар, трымае Глыбоцкую царкву Св. Мікалая. Згодна з прата-*

*колам ранейшай візітацыі не дастае антымісу ... які забраў астрынскі празбітар а. Феліцыян Якімовіч і да гэтага часу трымае. Загадалі, каб аддаў яго глыбоцкаму святару. А зараз пра антыміс с.п. кс.* (мітрапаліта - *Л. Л.*) *Сялявы, які мы загадалі абавязкова перадаць у капітулу. ... З'явілася новае: вялікі звон і алавяная даразахавальніца з верхам. Скаргаў на самога вялебнага айца не было, толькі сам вялебны айцец скардзіўся на астрынскага вялебнага айца, які post decessum* (пасля смерці - *Л. Л.*) *а. Пятра Татарчыца, продка вялебнага айца, забраў яго рэчы ..."* .

Глыбоцкая (Глэмбоцкая) царква Св. Мікалая, угодніка Божага згадваецца ў "Ведомости о церквах, церковных фундушах, имениях ... митрополичей литовского-виленской епархии ..." за 1811 г. Пры ёй была прыпісная царква на могілках ў вёсцы Гершты, заснаваная ў 1816 г. мясцовымі сялянамі.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гародні ёсць дакумент ад 22 лістапада 1834 г. "Справа па прашэнне святара Глыбоцкай царквы Ядкоўскага аб перадачы касцёла скасаванага Шайбакпольскага Францішканскага кляштара ў прыхадскую Глыбоцкую царкву".

23 верасня 1879 г. у Глыбокім высвечана пабудаваная за кошт дзяржаўнага скарбу царква. Падчас асвячэння шчучынскі дабрачынны а. Мікалай Пігулеўскі сказаў, што ранейшая царква зусім старая і малая і таму на святы палова вернікаў стаяла на дварэ. Дабрачынны адзначыў ахвярнасць мясцовага абшарніка сп. Мікульскага, які *"сам не з'яўляецца прыхаджанінам гэтага храма ... ахвяраваў на гэтую царкву ўвесь неабходны лясны матэрыял і саступіў пляц пад царкву. Ахвяраванне сп. Мікульскага можна ацаніць у 1000 рублёў. ... Гэтай справай сп. Мікульскі працягнуў справу сваіх продкаў па ўпрыгожванні мясцовай царквы, што вам даўно вядома. Бо яны ёсць галоўнымі ахвярадаўцамі пры пабудове старой царквы, ... без яго матэрыяльнай дапамогі наўрад ці ... быў бы пабудаваны ранейшы, параўнальны бедны храм".*

Старую, верагодна, яшчэ ўніяцкую Мікалаеўскую царкву, пра якую кажа дабрачынны, можна ўбачыць на фотаздымку Яна Балзункевіча, зробленым каля 1900 г.

# Астрына

Гарадзішча каля вёскі Кульбачына (3 км ад мястэчка Астрына) размешчана на беразе ракі Астрынкі і належыць да тыпу гарадзішчаў,

умацаванні якіх не залежаць ад рэльефу мясцовасці. Аналіз археалагічнага матэрыялу паказвае, што паселішча ўзнікла ў канцы X ст. у ходзе каланізацыі Панямоння славянскім насельніцтвам. З самага пачатку гэта была цвердзь - апорны пункт асваення правабярэжжа Нёмана, у глыбіні балцкіх зямель, потым, з XII ст. пасяленне стала памежнай цвердзю Гарадзенскага княства і феадальнай сядзібай - замкам.

Верагодна, упершыню ў пісьмовых крыніцах Астрына згадваецца ў літоўска-крыжацкім дагаворы 1379 г. Наступнае згадванне знаходзім у "Паведамленнях аб літоўскіх шляхах" ("Die Littauischen Wegeberichte") якое было напісана на мяжы XIV-XV ст.

У 1556 г. святары астрынскай царквы Іван Яновіч, Фёдар Антраповіч і дыякан Лагвін Апанасавіч *"били челом"* каралю Жыгімонту II Аўгусту, друйскаму старасту Станіславу Давойну і іншым *"державцом Острынским"*. Чалабітчыкі даводзілі, што іх царкве быў нададзены немалы фундуш панамі Зяневічамі (Зэнявічове) - продкамі *"тивуна Виленского и державцы Ушполького, Пенявского і Радуньского Шимки Мацковича"*. Праўда, праз пэўны час гэты фундуш зменшыўся бо іншы дзяржаўца пан Пётр Фалеўскі забраў чатыры валокі і пры царкве засталіся толькі тры валокі зямлі. Сваёй граматай ад 4 жніўня 1556 г. Жыгімонт Аўгуст гэтыя тры валокі юрыдычна замацоўваў за Астрынскай царквой . У 17-м томе АВАК ў тэксце палюбоўнай згоды ад 15 лютага 1540 г. гаспадарскага свечніка Каленіка Васюковіча з яго цёткай Сценай Зенькавай, верагодна, згадваецца жонка Зяневіча. Пасля Шымкі Мацкавіча Астрыной нейкі час валодалі яго нашчадкі.

Тэрытарыяльна, Астрынская грэка-каталіцкая парафія перакрыжоўвалася з Навадворскай рыма-каталіцкай. У вопісе Навадвораскай парафіі 1784 г. чытаем: *"Астрынская парафільная царква, на землях васпана Зянковіча, старасты астрынскага"*. З гэтага ж вопісу даведваемся, што дарога з Новага Двара ў Лядск *"... ідзе да Астрыны, мястэчка васпана Зянковіча. Уехаўшы ў мястэчка цераз брод, потым цераз мост і грэблю да карчмы, якая стаіць каля самага рынку, адсюль, па левую руку цераз мост і грэблю каля млына, далей* [трэба ехаць] *каля царквы і прама на вёску Баклажнікі да фальварка Кульбачына васпана Сцыпіёна..."*. А галоўнай дарогай, на якой ляжала Астрына, быў так званы Мытлянскі гасцінец, які з Ліды ішоў на Васілішкі, Астрыну, Азёры і далей да Гародні. У вопісе Васілішскай рыма-каталіцкай парафіі 1784 г. таксама знаходзім *"каралеўскае мястэчка"* Астрыну.

Прафесар Літоўскай семінарыі І. Юркевіч пісаў у 1853 г. пра Астрыну: *"Гэта мястэчка, якое калісьці належала да так званых*

*каралеўскіх "сталовых" маёнткаў, а зараз скарбовае. Падобна іншым мястэчкам Заходніх губерняў, мае каралеўскія прывілеі* (Магдэбургскае права - *Л. Л.*), *16 чэрвеня 1792 г. кароль Станіслаў Аўгуст пацвердзіў права мястэчка Астрына дыпломам "Renovationis", які напісаны ў Варшаве залатымі літарамі на пергаменце. Астрынскую царкву Святога Спаса, першапачаткова фундушом надзяліў цівун Шымка Мацкавіч з абшарнікамі Зяневічамі. У 1556 г., 4 жніўня, гэты фундуш зацвердзіў у Вільні кароль Жыгімонт Аўгуст".*

Больш пра гэта старажытнае мястэчка можна даведацца са "Слоўніка геаграфічнага…": *"Астрына раней была досыць гандлёвым мястэчкам. … Магдэбургскае права атрымала ад караля Уладзіслава IV у 1641 г. У 1666 г. канцлерам ВКЛ Крыштафам Жыгімонтам і Кларай Ізабэлай (парыжанкай з роду дэ Майлі Ласкарыс) Пацамі тут быў фундаваны касцёл. У часы Рэчы Паспалітай Астрына была цэнтрам неградовага староства. У 1771 г. ёй валодаў інстыгатар ВКЛ Андрэй Зянковіч. Каля 1508 г. астрынскім старастам быў падсарбій ВКЛ Федзька Багданавіч Храбтовіч".* Дарэчы, у 1673 г. менавіта Крыштаф Пац дабіўся прыняцця закона, паводле якога кожны трэці Сойм Рэчы Паспалітай павінны быў праходзіць у Гародні.

У першай палове XIX ст. у Астрыне стаяла старая драўляная прыходская Прэабражэнская царква, аб часе пабудовы якой звесткі адсутнічалі. На яе званіцы знаходзіўся звон з надпісам па-стараславянску.

Новы мураваны храм, які быў пабудаваны замест старой драўлянай царквы быў асвечаны 11 ліпеня 1865 г. Пасля асвячэння царквы быў высвечаны пачатак будаўніцтва прыходскай вучэльні і Астрынскай сельскай управы . "Слоўнік геаграфічны …" паведамляў, што 1886 г. акрамя мураванай царквы мелася яшчэ і драўляная капліца...

І вось на гэтым гістарычным фоне ідзе зусім іншае жыццё, жыццё простага люду з яго клопатамі, радасцямі і бедамі і з яго звычаямі, вераваннямі, забабонамі, а таксама з яго творчасцю, як адлюстраваннем таго самага жыцця. Рэдка дзе знайшліся адукаваныя людзі, каб запісаць гэтыя народныя творы, але тут знайшліся, знайшоўся, прынамсі, Уладзіслаў Вярыга.

Прыйшоў час пазнаёміць лідскага ды і беларускага чытача з нашай спадчынай, захаванай Уладзіславам Вярыгам, і найперш з "Беларускімі думкамі".

***Леанід Лаўрэш.***

## 1.

Ой жана мужа ня залюбіла,
Ня залюбіла, дай загубіла,
Палажыла дай ў камору пад акном,
Дай накрыла тонкім белым палатном.
“Прыехалі дай госьці маі,
Прехалі дзявяратка маі”.
“Ты, братова, ты лябёдушка наша,
А што ў цябе да за кроў на дварэ?”
“Вы, дзявяр’е, дзявяратка маі,
Я рэзала гусі, куры на дварэ,
Дажыдала я гасцей дарагіх”.
“Ты, братова, ты лябёдушка наша,
Да што ў цябе да госці былі?”
“А з вячора вячарніцы былі,
А з паўночы рыбалоўцы былі,
Да злавілі рыбу шчуку ў ляду,
Палажылі да ў каморы пад акном,
Да накрылі белым тонкім палатном”.
“Ты, братова, ты лябёдушка наша,
Гдзе падзела залатыя ключы?”
“Я згубіла залатыя ключы
Да ў гародзя, пшанічанку пялючы”.
“Ты, братова, ты лябёдушка наша,
Мы паедзем да слаўных кавалёў,
Мы даробім залатыя ключы”.
“Вы дзявяр’е, дзявяратка маі,
Да ня едзьця да слаўных кавалёў,
Да паедзьце вы на слаўны таржок,
Пакупіце вострую меч,
Да зрубіця галовушку далой з плеч”.

**2.**

Вечар вячарэя,
Пан каня сядлая,
Конь цяжка ўдыхая,
Ў яго пан пытая:

“Ой, косю, мой косю,
Чаго цяжка ўдыхаяш,
Ой, чы я табе цяжкі,
Чы сядло залатоя,
Чы сядло залатоя,
Чы ліца маладоя?”

“Ой, цяжкі мне, цяжкі
Начныя паязды,
Дзявоцкія залёты,
Ўсё бедныя сіроты.
Пан ў ночы пайдзеш,
А мяне пакіняш,
Прывязаўшы да плоту.
Стаю я гадзіну,
Стаю я другаю,
Аж вядуць маго пана,
Да галоўка зрубана,
Чорным шолкам звязана,
І на смерць яна прыбрана.
Ота ж табе, паня,
Начныя паязды,
Начныя паязды,
Дзявоцкія залёты
За бедныя сіроты”.

**3.**

У вішнёвым садочку
Сынок паляваў,
Ночку начаваў,
Дзівны сон прысьніў,
Матулі сказаў.
Матуля сына
Той сон згадала,
Сыну сказала:
“Ой сыну, сыну,
У тваім дварэ
Навіна стала:
Жана маладая
Сына ўрадзіла,
Сама ня жыва”.

“Ох, служкі маі найвярнейшыя,
Сядлайце каня найсівейшага,
Найсівейшага, найскарэйшага”.

“Еду я цераз бор,
Мой бор ня зялён;
Еду я цераз поля,
Поля ня звяніць.
Вашоў я да сяней,
Цесьлі цясьлююць,
Для маёй жаны
Дамок будуюць.
Вашоў я да хаты,
Ложа заслана,
Жана прыбрана,
Ў канцы галоўкі
Сьвечачкі гараць,
Ў канцы ножанкаў
Дзетанкі сядзяць”.

## 4.

Было ў маткі дзевяць сыноў,
Да ўсе дзевяць ў разбой пашлі.
Марысю замуж аддалі
Да за далёкая поля,
Да за вялікую гору;
Заказалі браты сястры,
Каб ў госьці ня бывала.
Сястра братоў ня слухала,
Да ў гасьцінку выяхала.
Ажна йдуць ваеўнічкі.
Ваеўнічкі, маі браткі,
Ўзялі каня за цугяльку,
Ясянка за ручанку;
Ўзялі швагра да і забілі,
А сыночка ўтапілі,
З Марысяю паехалі.
Прыехалі да карчомкі,
Сталі ў восям піць, гуляць,
А дзявяты ні п’е, ні есьць,
З Марысяю размаўляя.
“Што ж вы, браткі, да зрабілі,
Ўзялі швагра да забілі,
А сыночка ўтапілі”.

## 5.

Кася Яся выпраўляла,
Выпраўляла, научала:
“Ня едзь, Ясю, борам-долам:
Долам-борам разбойнічкі;
У роўным полі работнічкі”.
Ясь Касінкі ня слухаў
І долам-борам паехаў.
І напалі разбойнічкі
Да і Ясінку забілі,
Злота-срыбра абабралі.
“Шынкарачка маладая,
Дай нам мёду ня меручы,
Дамо грошы ня лічачы”.
Восям братоў ўпілася,
Дзявяты ня ўпіваўся,
Шынкарачкі распытаўся:
“Шынкарачка маладая,
Чы ты роду вялікага,
Маці-айца багатага?”
“Маіх братоў ўсех дзевяць,
А я сястра дзясятая;
Пашла замуж за край-гору,
За край-гору, за купчыка;
Ён паехаў таргаваць,
Мяне пакінуў шынкаваць”.
“Уставайця брацця мае,
Забірайця рэчы свае,
Ох, штож мы добрага зрабілі,
Сваго швагра забілі”.

**6.**

Зашумела ў бару сосанка,
Забалела Ганулі галоўка,
Зажадала заморскага зелля.
“Ох, хтожа мне зелячка даставіць,
То я да з тым да шлюбу стану”.
Адазваўся казак маладзенькі:
“У маго брата тры каня на стайні,
Я Ганулі зеляйка дастаўлю.
Першым коням поля пераеду,
Другім коням мора пераплыву,
Трэццім коням зеляйка дастаўлю”.
Ох, стаў казак зеляйка капаць,
Стала яму зелля прымаўляць:
“Кідай, казак, зеляйка капаць,
Едзь Ганулі вяселля гуляць”.
Едзя казак з коням размаўляя,
Чы Гануля вяселля гуляя.
Як прыехаў і сеў на дарозя:
“Ня умеў я маладзенкі
Прапасьці ў дарозя,
Ня умеў я ножкі зламаць,
Ніж Ганулі вяселля гуляць”.

**7.**

Ой, ў полі верба стаіць,
Пад вербай жаўнер ляжыць,
Над жаўнерам конік стаіць.
Выбіў зямлю па каленяў,
Выеў траву із карэняў,
Сваго пана збуджаючы,
Ў сваго пана пытаючы:
“Ўстань, ўстань, мой паночак,
Да ўжо на мне шэрсць паўстала,
Пада мною чорна стала”.
“Ступай, косю, дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Прыдзеш, косю, да ў новы двор,
Найдзеш, косю, нову браму.
Стукні, косю, ў вароты,
Каб вароты разляцелі ся,
Да ўсе замкі зазвянелі ся.
Выдзя да цябе стара маць,
Будзя ў цябе праўду пытаць.
Ня кажы, косю, шта забіт ляжу,
Да скажы, косю, шта ажаніўся;
Ўзяў сабе жонку, варшавяначку,
Гаспадынячку да сваго дому”.
“Ой, косю мой, гдзе ты падзеў
Сваго пана, маго сына?”
“Вазьмі, маць, пяску жменю,
Пасей, маць, на каменю;
Будзяш, маць, паліваць,
Будзяш сына ўсё чакаць;
А як найдзяш пяску сходу,
Тады прыдзе сын с паходу”.

## 8.

Паехаў сын Даніла
Да на Русь на вайну;
Пакідая сын Даніла
Кацярыну-жану.
Прыехаў сын Даніла
Да із Русі з вайны;
Пытаяцца сын Даніла
Кацярыны-жаны.
Ой, ня вышла Кацярына,
Вышла яго стара маць,
Яна стала сваму сыну
Кацярыну ўдаваць.
“Ой, чы жыва, чы здарова
Кацярына мая?”
“Да і жыва, і здарова,
Да ўсю волю паняла;
Тваe коні вараныя
Пазаежджывала,
Твае служкі вернянкія
Пазаганівала,
Твае сады вішнёвыя
Павысушывала,
Твае сукні дарагія
Пазаношывала”.
Узяў сын Даніла
Остру мечу с плеч,
Зняў Кацярыня
Галованку с плеч.
Пашоў сын Даніла
Да да новай стайні;
Яго коні вараныя
Ўсе харошыя стаяць;
Яго служкі вернянкія
Ўсе прыбраныя сядзяць.
Пашоў сын Даніла
Да ў новую піўніцу.
Яго мёды салодкія
Ўсе цалюсянкі стаяць.
Пашоў сын Даніла
Да да новай сьвятліцы.
Яго сукні дарагія
Ўсе харошыя вісяць;
Яго жана Кацярына
Ўсё белая ляжыць.
“Отаж табе, матулянка,
Тры грахі на табе:
Першы грэх, матулянка,
Шта дзеткі - сіраты;
Другі грэх, матулянка,
Малады ўдавец;
Трэці грэх, матулянка,
Кацярыны няма.
Ня капаўшы студзянкі,
Та ня піць вады;
Паслухаўшы роднай маці,
Да ня мець жаны;
Ня капаўшы студзянкі,
Та ня піўбы вады;
Каб ня слухаў роднай маці,
Та ня біўбы жаны”.

**9.**

“Дзякуй Богу за добрага мужа,
Шта ён мяне ня б’е, ня карая,
Да шта ён мне гуляць пазваляя”.
Ой с-пад гаю конік выбягая,
На тым коніку малойчык сядая,
Сядаючы на скрыпачцэ грая,
Струна струне жалю задавая.
Маці сына з ціха научая:
“Чы ты, сынку, нагайкі ня маяш,
Чаму, сынку, жонкі ня караяш,
Чаму ты ёй многа пазваляяш?”

І з вячора камора звянела,
А с паўночы нагайка шумела,
На сьвітаню мілая сканала,
Як дзень белы мілая убрана.

“Устань, міла, кароўкі рыкаюць”.
“Пушчай бычкі, няхай высысаюць”.
“Устань, міла, твае дзеткі плачуць”.
“Няхай плачуць, а хоць паўміраюць,
Няхай знаюць, што маці ня маюць”.

“Мая маці, мая дараднiца,
Дарадзіла, як жонку забіць,
Дарадзь цяпер, чым яе убраць”.

“Вазьмі, сынку, кашульку паркалёву,
Влажы, сынку, спаднічку ружову,
Влажы, сынку, чапэчак тулёвы”.

“Мая маці, мая дараднiца,
Дарадзіла, як жонку прыбраць,
Дарадзь цяпер, гдзе яе схаваць”.

“Вязі, сынку, ў вішнёвы садочак,
Знайдзяш, сынку, жоўценькі пясочак,
Капай, сынку, глыбокі далочак,
Хавай, сынку, ў глубоку магілу;
Возьмеш, сынку, маладу дзяўчыну”.

“Мая маці, мая дарадніца,
Дарадзіла, як жонку схаваць,
Дарадзь цяпер, скуль другую ўзяць”.

“Вазьмі, сынку, сівую кабылу,
Паедзь, сынку, ў чужую старонку,
Вазьмеш, сынку, багатую жонку”.

## 10.

Пашлі дзеўкі ў маліны,
Недалеча, а тры мілі.
Бралі, бралі, не набралі,
Красну панну сабе ўзялі;
Ня так панну, як паненку,
Да як мяне маладзенку.
Наша матка рана ўстая,
Сынкі сваі пабуджая:
"Вставайце, сынкі маі,
Даганяйце сястру сваю;
Даганіця ў поў лясу,
Ня рабіця там голасу;
Даганіця ў поў бару,
Ня рабіця там разбою;
Даганіця ў поў даліны,
Ня рабіця шлюбавіны;
Даганіця ў поў сяла,
Ня рабіця там голасу".
Даганілі ў поў бару,
Ня рабілі там разбою;
Даганілі ў поў даліны,
Ня рабілі шлюбавіны.
"Свеціць слонца да ня ясна,
Наша сястра да няшчасна;
Свеціць месяц над вадою,
Наша сястра ўдавою".

## 11.

Зашумела лешчынанка
Ў суботу пазненка.
Памёр, памёр казачанка
Ў нядзелю на ранку.
“Збірайцяся, казачанкі,
Ад ранку да ранку,
Выкапайця для казака
Глыбокую ямку.
Пастаўця для казака
Святліцу на лаўку,
Да складайця на казака
Шалкову сарочку,
Да схавайця казачанка
Ў вішнёвым садочку,
Да зрабіця для казака
Высоку магілку,
Да пастаўця для казака
Чырвону каліну.
Каб я была зязюлькаю,
Да ўмела б лятаці,
Села б, пала б на магілку,
Да казала б: “Ку-ку,
Падай, падай, мой сыночак,
Хоць правую руку”.
“Рад быў бы, мая маці,
Абедвя падаці.
Сыра зямля, жоўты пясок,
Я не магу ўстаці”.
Ляцеў пятух цераз раку,
Сказаў: “Ку-ка-рэ-ку!
Ой, ня ўбачыць матка сына
Аж да сваго веку”.

## 12.

Ох, ў лозя, пры дарозя
Зацьвіла каліна:
Парадзіла ўдованка
Жаўнерскага сына.
Ох, радзіла яна яго,
Долі яму не дала,
Толькі дала бела ліца
І чырвоныя бровы.
Развівайся, зялёны хмелю,
Зараз мароз будзя;
Убірайся, ўдовін сыну,
Зараз паход будзя.
“Я мароза ня баюся,
Зараз разаўюся”.
“Я пахода ня баюся,
Зараз прыбяруся”.

Ой, пад гаям, гаям,
Гаям зяляненкім
Выяжджая з Вільна мяста
Рэкрут маладзенкі.
Як выехаў за варота,
Нізенка скланіўся:
“Выбачайця, ўся радзіна,
Можа, з кім сварыўся.
Пакрапляйця дарожынку,
Каб не пылілаб;
Разважайця маю матку,
Каб ня тужылаб”.

Пакраплялі дарожынку,
Яна ўсё пыліць;
Разважалі маю матку,
Яна ўсё тужыць.
Пыталася матка ў сына:
“Калі з войска прыйдзеш?”
“Як у пакою на падлодза
Трава выросьня”.

Расла трава, расла,
Стала пасыхаць,
Ох, чакала маці сына,
Да стала плакаць.
Зляцеў пятух на варота,
Сказаў: “Ку-ка-рэ-ку!
Спадзевайся, маці, сына
Аж да сваго веку”.

**13.**

Паўкоўнічыха белу пасцель слала,
Паўкоўніка нажыдала.
Яна спаці клала,
Па ютра рана ўстала,
Ўсе слыхі выслухала.
“Памёр, памёр наш паўкоўнік
Сваёю райскаю сьмерцю,
Прызасталіся дзеткі малыя,
Жана маладая”.

Ў цёмнам леся сякуць, рубяць
Сухую ядлінку,
Маладому паўкоўнічку
На дол, на магілку.
Ў нядзелю ранусенка
Ўсе званы званяць,
Паўкоўніка хароняць.
Каня вядуць, сядло вязуць,
Конь галоўку клоніць,
Маладая паўкоўнічыха
Белы ручкі ломіць.

“Поўна, поўна, конь вароны,
Галоўку кланіці,
Поўна, поўна, паўкоўнічыха,
Белых рук ламаці”.
“Ой, як жа мне пакінуць
Белых рук ламаці:
Прызасталіся дробныя дзеткі,
Жана маладая”.

**14.**

Былі ж ў бацькі да тры дачкі,
        Дума ж мая, думушка.
Пашлі яны па ягады,
        Дума ж мая ... і г. д.
Па ягады, па чырвоныя,
Па голяйкі, па зялёныя.
Перша сястра та Галена,
А другая Магдаленка,
А трэццяя та Марылька.
Перша сястра затанула,
А другая заблудзіла,
А трэцяя дарогаю пашла,
Дарогаю пашла, жаўнера нашла.
Кажа жаўнер пасьцель белу слаць,
Стала дзеўка жалосьна плакаць.

"Чаго дзеўка жалосьна плачаш,
Чы ойчанка замуж выдавая,
Чы брацяйка коскі разплятая,
Чы сястронкі цябе аспявалі?"

"Цёмна ночка мяне выдавая,
Буйны вецяр коскі расплятая,
Дробныя пташкі мяне аспявалі".

"Стань дзеўка ў полі на каменю,
Скажы братоў і сястроў іменя".

"Перша сястра то Галена,
А другая Магдалена,
А трэццяя то Марылька,
А брацяйка, Ясянка, на вайне".

"Бог сьцярог, што з сястрою спаць ня лёг".

## 15.

Быў ў маткі адзін сын,
Ён яе ня слухаў.
Ён яе ня слухаў,
На воянку даехаў.
Матка сына выпраўляла,
Шчырым сэрцам праклінала:
  “Едзь ты, сынку, ня вярніся,
Каб ця войска спатыкнула,
Перша куля не мінула”.

Едзя поля і другоя,
На трэццяя ступая,
Матка сына ўстрачая:
  “Ахвіцэру маладзенкі,
Чы ня відзяў сына маго?”
  “Матка ж мая родна,
Чы ж мяне ня пазнала,
Ахвіцэрушкам назвала?”
  “Мой сынок мілюсянкі,
Чы верняшся да домункі?”
  “Матка мая родная,
Да домункі ня вярнуся;
Ахвіцэрушкаў баюся.
За мною войска йдзе,
Як белы мак зацвяце,
І кулянкі як град сячэ,
Галованкі як плот кладзе”.

**16.**

“Матуля, матуля,
Гдзе пашла Гануля?”
“Гануля мая
Пашла да аборы
Даіці каровы”.

Яська да аборы,
Ганулю з аборы.
Прышоў да матулі:
“Гдзе пашла Ганулю?”
“Пашла да крыніцы
Бела ліца мыці”.

Яська да крыніцы,
Ганулю з крыніцы.
Прышоў да матулі:
“Гдзе пашла Ганулю?”
“Пашла да каморы
Па ўсе свае ўборы”.

Яська да каморы,
Ганулька ў каморы
Два лісточкі піша,
Сыночка калыша.

## 17.

Ой там на залеся
Васіль сена косіць,
Да яго матуля
Навіну прыносіць.

“Васілю, Васілю,
Кідай касіць сена, ((bis)
Да ідзі да домункі,
Бо твая Маруля
Сыночка ўрадзіла,
Сама чуць шта жыва”.

Ой там на залеся
Васіль сена кося,
Да яго Маруля
Сыночка прынося.

“Васілю, Васілю,
Кідай касіць сена,
Бяры сваго сына;
Калі ня возьмеш,
Кіну на пракося”.

“Маруля, Маруля,
Бяры сваго сына,
Нясі да домункі,
А я за табою,
Да тры пары валоў.
Калі таго мала,
Коніка ўранога.

Прышоў да каморы,
Тры пісары піша,
Прышоў да лужынкі,
Дзяціну калыша.

“Люляй, люляй, мой маленкі, спацькі,
Ой, я цябе знайшоў ў агродзя ў мачку.
Люляй, люляй, мой маленькі блазня,
Як цераз цябе, блазня,
Ўся фартуна плясня.

## 18.

Йшлі чумакі чатыра гады,
Да і ня мелі прыгоды яны,.
Здзелалась ім прыгода серад горада:
Маладому чумаку баліць галава,
Баліць яму дзень, баліць і другой.
Ніхто яго ня спрашывая,
У чом чумак бальной.

“Вы чумакі, вы браццы маі,
Выкапайця дол глыбокі
На глаза маі”.

Пашлі чумакі на далінушку,
Выкапалі дол глыбокі за гадзінушку.
Ах буялі валы, стоячы ў ярме:
“Памёр, памёр наш чумак ў чужой старане”.
І ржалі коні, стоячы ў вазе:
“Памёр, памёр наш чумак ў вялікай дарозя”.

Скінуў чумак сьвіту,
Скінуў і кажух:
“Прападай ў сырой зямле,
Тут выйдзя мой дух”.

## 19.

Ў першам палку коні заржалі,
Да вот, вот коні заржалі,
Ў другім палку навіны чуваць,
Да вот, вот навіны чуваць.
Ў трэццім палку шабелькі звяняць,
Да вот, вот шабелькі звяняць.
“Служылі мы аднаму цару,
Да насілі мы адную барву,
Да любілі мы адную панну.
Да ехалі мы цераз яе двор,
Зваліласяя мне шляпушка далой;
Да я ў яго спрашываў падаць,
Да ён мне шляпушку не падаў,
Да я яму галовушку зняў”.
Брат брата любіў, галовушку зрубіў.
За якую прычыну?
За харошу дзяўчыну.

## 20.

Ой, рана, рана
Слонца на заходзя
Пяле дзяўчына
Белы лён ў агродзя.
Ой, поля, поля,
Да перабірая,
Да яе з мора,
Да яе з мора,
Пташак прылятая,
Пташак прылятая.

“Ой, пташку, пташку,
Ты ружовы квеця,
Ой, чы жые, жые, (bis)
Мой братко на свеця?” (bis)

“Ой, жые, жые,
Плача лямантуя,
Прось Бога, сястра, (bis)
Да ця прымандруя”. (bis)

“Не мандруй, браця,
Цераз айцоўска поля,
Бо хочуць зрадзіць (bis)
Цябе жыдовя”. (bis)

“Ня рэжцяж мяне
Над голай зямлёю,
Дай палажыця (bis)
На скрыню зялёну, (bis)
Няхай мая кроў (bis)
Ня плыня на зямлю. (bis)
Ой, некага паслаць
Па сястру радзону,
Ёй дараваўбы (bis)
Ту скрыню зялёну. (bis)
Ой, некага паслаць
Па айца раднога,
Яму дараваўбы (bis)
Каня варанога”. (bis)

**21.**

Ой, зіма мая
Марозліва была,
Ой, жана мая
Здрадліва была,
Павяла ў карчомку
Да і напаіла,
Павяла ў садочак
Да і павесіла.
Ў якім садочку?
Ў вішнёванкім.
На якім кусточку?
На яблонавым.
Сама малада
Гуляць да двара.
Гуляла, гуляла,
Нагуляла ся.
"Божа мой, Божа,
Што я зробіла,
Я свае дзеткі,
Пасяраціла.
Цераз гулячку
То кума мая,
А ў кумы хлопец,
То душа мая.
Дай маму папу
Пшаніцы капу.
Поп пшаніцу ўзяў,
Нам шлюбу ня даў.
Бодай на папа
Трасца напала,
Як маёй пшаніцы
Капа прапала.
Бадай на папа,
На яго дзеці,
Як на маю пшаніцу
Міла глядзеці".

## 22.

Ой, ў полі за дзвярцамі
Стаіць ложа з кабярцамі.
На той ложы казак ляжыць
Парубляны, пасячоны,
На стрэлачкі пастралёны.
Прыляцела тры зязюлькі,
Да ўсе тры сівянкія.
Адна села ў галоў яго;
Другая села ў ног яго,
Трэцьця села на сардэйка.
Матка села ў галоў яго,
Сястра села ў ног яго,
Жана ўпала на сардэйка.
Матка плача век ад веку,
Сястра плача рок ад року,
Жана плача до абеду.
А па обедзя ў садок пашла,
І вянок звіла, вянок звіла,
І ў таночак пашла.
“Гоца, гоца, мой наймільшы,
Ўзялі д’яблі, будзя іншы,
Будзя іншы, будзя лепшы,
Маёй душэ прыгарнейшы”.

## 23.

Заказалі на ваенку
Да ўсім панам
І дробным шляхтам:
“Хто мая, выязджайця,
Хто ня мая, добывайця”.
Бедна ўдава сільня плача:
Каня маю, сына нет”.
“Паедзь, матка, да таржэчку,
Спраў боцікі по шавецку,
А сукенку па кравецку,
А шапачку па салдацку”.
Матка цурку выпраўляла,
Шчырым сэрцам навучала:
“Ня едзь, цурка, ўпярод войска,
Ані назад ня аставяйся”.
Цурка маткі ня слухала,
Ў пярод войска паехала,
Паўкоўнічку ручку дала,
Пярсцёначкі паказала.
“Каб я ведаў, што ты панна,
Узяўбы цябе сам за сябе”.

## 24.

Паехаў Яся на вайну,
Пакінуў ў дому сваю жану.
“Да кармі, матка, мёдачкам,
Да паі, матка, саладочкам”.

Накарміла матка атруціцаю,
Напаіла матка чамярыцаю.
Прыехаў Яся із вайны,
Ня нашоў ў дому сваёй жаны.

“Да жджы, Ясю, абеду,
Да жджы, Ясю, палудня,
Да жджы Ясю вячэры,
Ўжа твая Марыся ў касцеля,
Да пшыбіта да сцяны,
Жалабным сукном накрыта”.

Да ўхапіў Яся востры меч,
Да хацеў матца галаву ссеч,
Да яго слугі падхапілі,
Востры мечык адабралі.

## 25.

Стаяў маёр малады,
Ня жанаты, халасты;
З пад таго маёра
Выхадзіла малада ўдова.
Па садочку хадзіла,
Да сыночкі ўрадзіла,
І ў кітайку спавіла,
І ў быстры Дунай пусціла.

"Ой, ты быстры Дунай,
Ня шумі, ня гуляй,
Маіх дзяцей забаўляй.
Ой, ты ціхі вярабей,
Калышы маіх дзяцей.
Ой, ты жоўты пясок,
Кармі маіх дзяток!

Прышла ўдава ваду браць,
Начаў карабец прыплываць.
А ў том карабцэ
Два харошыя малайцы.
Адзін сядзіць ў пераду
Ўсё ганяе ваду,
Другі сядзіцуь ў заду
І чэша росу касу.

"Ой, ты, ўдова, ўдова,
Ой, чы пойдзеш за мяне?"
"Сама пайду за старшага,
А дачку дам за малодшага".

Паехалі да вянца,
Ні гавораць ні слаўца.
Сталі іх вянчаць
І прозвішча пытаць.
"На іменя Паповіч,
На прозвішча Карповіч".
"На іменя Папоўна,
На прозвішча Карпоўна".

"Бадай тыя папы прапалі,
Шта брата з сястрою вянчалі.
Яшчэ мяне Бог сцярог,
Шта з сястрою спаць ня лёг.
Пайдзём, сястра, ў поля
І разсеямся абоя;
Ты будзяш жоўты цвет,
А я буду сіні цвет;
Будуць нас дзеўкі рваць
І брата з сястрою спамінаць".

## 26.

Вышла дзеўка на гулачку,
Стала, падумала:
"Пашлаб былаб ў осянь замуж,
Каб я пасаг мелаб;
Каб я мелаб пасагу,
Карову сівую,
То былаб пайшла замуж
Ў старану чужую".
"Йдзі, йдзі дзяўчынанка,
Буду цябе брацъ,
Я ня буду цябе, дзяўча,
Пасагу пытаць!.
"Ня будзеш ты, ня будзеш ты,
Будзе твая маць
Што дзень, што гадзіну
Пасагу пытаць".
"А ўстань, а ўстань, нявестунька,
Бодай ня ўстала!
Выжань стада і грамаду,
Што пасагу прыгнала".
"Звяжыця галованку
Шалковым платочкам,
А пашлю я да матулі
Сівым галубочкам:
- Ляці, ляці, сівы галубочак,
Ты выша званіцы,
Выдзі, выдзі, мая матка,
Як ясна зарыца;
Ляці, ляці, сівы галубочак,
Нідзе не садзіся,
Як прыляціш да матулі,
Нізенка скланіся".
"Радаб была маё дзеця,
Паклон ад ця ўзяць,
Сыра зямля, жоўты пясок,
Ня магу рук зняць".

**27.**

Зышоў месяц ні зара,
Клічуць войта да двара:
Будуць думку думаці,
Каго ў рэкруты оддаці.
Выдумалі думанку
На бедну сірату,
Та менш будзя клопату;
Аддаць таго малайца,
Што ні маткі, ні айца, (bis)
Толькі адна сястрыца.
Сястра тоя пачула,
Сваяму брату шапнула:
"А ты, браця, тое чуй,
Дзісь ў дома ня начуй".
Брат сястрыцу ня слухаў,
Разабраўся дай спаць лёг;
Аступілі ў асьмёх.
Братка прэндзай на гару,
Прадраў новую страху,
Прадраў новы стрэх
Ды ўваліўся ў белы сьнег;
Ды ўваліўся ў белы сьнег,
Ды пашоў ў вялікі сьвет.
Прэндзай коні сядлалі,
Ў чыстам полі дагналі,
Ў чыстам полі дагналі,
Ручкі, ножкі звязалі,
Да павозкі сажалі.
"Вязуць мяне ў гарадзец,
Я прaкрасны маладзец;
Вядуць мяне да мяры,
Цешацца жаўняры.
Я да мяры як дашоў,
Тый ў службу пашоў,
Дай агню, тытунцу,
Закурыць трубачку;
Буду трубку курыць,
Царску службу хваліць".

## 28.

У нядзелю ранусенка
Дожджык пакрапляя,
Маладая бандаруўна
Валы паганяя.
Гдзе ўзяўся пан канюшы
З сваімі слугамі.
"Павярніся, бандаруўна,
З валамі да хаты".
Наняў, наняў пан канюшы
Музыканты граці;
То для млодай бандаруўны
Пайсьці пагуляці.
Маладая бандаруўна
Мела сказаці:
"Я ня маю такой сукні
З канюшым гуляці".
Купіў, купіў пан канюшы
Дарагую сукню,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы
Цераз верную служку.
Маладая бандаруўна
Мела адказаці:
"Я ня маю такой стужкі
Ў гэту сукню класьці".
Купіў, купіў пан канюшы
Дарагую стужку,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы
Цераз верную служку.
Ўцекала бандаруўна
Ў зялёны лесы,
Даганялі бандаруўну
Ашмянскія шляхты;
Ўцекала бандаруўна
Ў зялёныя лугі,
Папалася бандаруўна
Канюшаму ў рукі.
Як даў пан канюшы
Бандаруўня ў плечы,
Паліліся з бандаруўны
Чырвоныя рэчы.
Казаў пан канюшы
Тры дні ня хаваці;
Спасылаў пан канюшы
Па айца і маці.
Як прышла бандарова
Спляснула рукамі:
"Адгуляла маё дзіця
З тымі дваракамі".
А як прышоў сам бандар,
Тропнуў ён нагою:
"Залажыла маё дзеця
За ўсіх галавою".

## 29.

Ох, ў нашай старонца
Стала навіна:
Маладая Марысенка
Сына радзіла.
Парадзіла яна яго,
Ўзяла, спавіла,
А спавіўшы, маладая
Ў Дунай пусціла.
  "Плыві, плыві, мой сыночак,
Ў зялёны лугі",
Не задавай маяму сэрцу
Вялікай тугі".
Ох, там былі рыбалоўцы
Рыбу лавіці.
Ня злавілі шчукі-рыбы,
Злавілі дзіця.
Ох, прыняслі тоя дзіця
Ў зялёны двор,
Ўдарылі ў барабаны
І ў той вялікі звон.
  "Збірайцяся, ўсе дзяўчата,
На той судны дзень".
Ўсе дзяўчата йдуць, плывуць,
Ўсе па пары йдуць,
Да на сваіх галованках
Вяночкі нясуць.
Адна бедна Марысянка
На тыля йдзе,
На сваёй галованца
Вянка ня нясе.
Ох, ўзялі Марысянку
За белыя ручкі,
Ўкінулі Марысянку
Ў Дунай глыбокі.
  "Матулянка, раднюсянка,
Маяш дочкі две:
Ня спраўляй ім такіх сукняў,
Як спраўляла мне;
Матулянка, раднюсянка,
На выданьню две:
Ня давай ім такой волі,
Як давала мне".

## 30.

Ой, на лугу, на лужочку,
На зялёным муражочку,
Ой, там Кася валы пасе,
І пасучы прыдрамала,
Стада валоў пацярала.

Йшла Кася гукаючы,
Стада валоў шукаючы.
І гукала, і блукала.
Прыблукала да шыночку, (bis)
Начавала Кася ночку.

Там салдаты п’юць, гуляюць,
Млоду Касю намаўляюць.
Намувілі і акпілі,
Ў вазочак пасадзілі,
Пасадзілі ў вазочак,
Павязлі ў гарадочак.

**31.**

Ой, ў Вжэсьця, Вжэсьця,
На пракраснам месьця
Стаяла карчомка.
        Ай, вэй, гарцулянкі,
        Гут, гут, дамулянкі,
        Стаяла карчомка.

А ў той карчомца
Два салдаты пелі;
        Ай, вэй, гарцулянкі,
        Гут, гут, дамулянкі,
        Два салдаты пелі.

Два салдаты пелі,
Хаю намувілі;
        Ай, вэй ... *і г.д.*

Хаю намувілі:
  "Хая маладая,
Чы паедзеш з намі?"
        Ай, вэй ... *і г.д.*

  "Прыедзьця, прыедзьця
Ў саботу рана,
Як айцец з маткай
Да, да школы[1] пайдуць,
А мне ключы дадуць.
Прыедзьця, прыедзьця
Да ў тры павозкі:
На першай павозца
Скрынкі да пярынкі,
На другой павозца
Сярабра і злота,
На трэццяй павозца
Сама Хая сядзя".

А як Хая села,
Песянку запела.
  "Брацьця і сястровя,
Бывайця здарова;
Айцец, радна маці,
Ня буду вас знаці".

Ох, прывязалі Хаю
Пры ціхім Дунаю.
  "Чы, Хая, вярніся,
Чы йдзі тапіся".
  "Ох, я ня вярнуся,
Лучша утаплюся".
Прывязалі Хаю
Да сасны плячыма,
Да мора очыма,
Запалілі сосну
Ад камля да верха.
Сасенка пылая,
А Хая гукая:
  "А хто ў леся чуя,
Няхай той ратуя;
А хто дачкі мая,
Няхай научая,
Няхай научая,
Гуляць ня пушчая".

---

[1] Школа - сінагога, *рэд.*

## 32.

Пашоў Ясь у поле гараць.
Ўсё поле пагарана,
Час валы пускаць.
Прышоў Ясь ў хату,
Стукнуў ў акенца:
“Адчыніся, Марысянка,
Мае міла сэрца”.

Вашоў Ясь да хаты,
Дзеткі малы плачуць.
“Дзеткі мае маленкія,
Гдзежа ваша маць?”
“Пашла наша маць
Весь сьвет вандроваць;
Выходзячы яна сказала:
- Я ня ваша маць”.

Пашоў Ясь до сьвірна.
Адчыняна скрыня,
Няма сукняў,
Няма грошай,
Няма гаспадыні.

Пашоў Ясь да стайні,
Адчыняна стайня,
Няма коня варанога
І хвурмана маладога.

Прышоў Ясь да хаты
І спляснуў рукамі:
“Дзеткі мае мілянкія,
Пагіну я з вамі.
Жана маладая,
Вярніся да дому:
Мае дзеці,
Тває дзеткі,
Гадуймо абоя”.

**33.**

Як мы любіліся,
Зялёныя дубы хіліліся;
Як мы перасталі,
Зялёныя паўсыхалі.
Як мы любіліся
Чатыра нядзелькі,
Чатыра гадочкі,
Захварэў казачанка
Ў зялёнай дубровя,
Маладая дзяўчына
Ў новянкай комора.
Маладой дзяўчыня
Піці, есьці досіць,
Малады казачак
Зімнай вады просіць:
“Сырая зямліца,
Дай вады напіцца,
Можа перастану
Па дзеўца журыцца”.
На заўтра рана
Да ўсе званы звоняць,
Казака хароняць.
“Выдзі, матка, выдзі,
Чы ўсе званы звоняць?
Да ўжа ў палавіня,
Будзя па дзяўчыня.
Пахавай нас, матка,
Хоць ў адной магіля
Порач галавамі,
Будзя на том свеця
Размованка з намі”.

## 34.

Зашумела зялёна дуброўка,
Забалела Марысі галоўка;
Зажыдала заморскага зелля,
Заморскага зелля, другога вяселля.
Кажуць айцу па зелейка ехаць,
Айцец кажа: “Я зелля не знаю”.
Кажуць братку па зелейка ехаць,
Братко кажа: “Я каня ня маю”.
Ёсьць ў Ясі тры каня на стайні:
Адзін конік, як лебядзь бяленкі,
Другі конік, як дзяцел рабенкі,
Трэці конік, як воран чарненкі.
    “Белым канём да мора даеду,
    Рабым канём мора пераеду,
    Чорным канём да зелля даеду”.
Стаў Ясянка зеляйка капаць,
Сталі Яся слёзкі ашыбаць,
Стала над нім зязюлька каваць:
    “Кідай, Яся, зелейка капаць,
    Да стань, Яся, з мячом пры дарозя:
    Будуць ехаць Марысіны сваты”.
Узяў Марысю пад праву ручку,
Востры мечык ў левую ручку.
    “Заграй, заграй Марысі, музычка,
    Я павяду Марысю ў таняц”.
Зняў Марысянкі галованку з плечак.
Па Марысі айцец, маці плача,
Па Ясянца чоран воран крача.
Па Марысі ўсе званы званяць,
Па Ясянца на сто каней ганяць.
Марысю да долу спускаюць,
А Ясянка да турмы саджаюць.
    “От, табе, Марыся, ў зямліцы ляжаці,
    Ох, было нас ў двох ня кахаці”.

### 35.

Ой, ў полі каліна
З ветрам гаварыла.
Парадзіла матка
Жаўнерскага сына.
Хоць яна радзіла,
Да долі не дала,
Толькі дала бела ліца,
Чорнянкія бровы,
Чорнянкія бровы
З сінімі очыма.
“Сядай, жаўнер, вячараці,
Бо смерць за плячыма”.
Як сеў казак есьці,
Прышлі з войска вешчы.
“Пакідай, жаўнер, да вячараці,
Час на каня сесьці”.
Жаўнер каня сядлая,
Матка рукі ламая,
Яго жана маладзенка
Зямніцу прабівая.
“Ой, ня дай Божа, сьмерці,
Ў чужом баку ўміраці,
Ба некаму даглядзець
Жаўнерскай смерці”.
Гарол прылятая,
Сьмерці даглядая,
Да бела ліца да абірая,
Косьці пакідая.

## 36.

Ў нашага пана
Двор над вадою,
Сад над ракою,
А ў том садочку
Пташачкі пелі.
Ой, пелі, пелі,
Да палецелі,
Мяне маладу
Тут паруцілі,
Тут паруцілі,
Замуж аддалі,
Замуж аддалі
Ня за любага.
Я спаці йшла,
Жоранка зышла,
Другая зышла,
Я прачхнулася,
Ад нялюбага
Адвярнулася,
Смяртухну-матухну
Спатыкнулася.
"Смяртухна-матухна,
А гдзе йдзеш?"
"Йду нябожа
Па нялюбага".
"Смертухна-матухна,
Ня бяры яго,
Хоць нялюбага,
Да вазьмі мяне маладзенкай,
Бо людзі скажуць, што ня любіла,
Суседзі скажуць, што атруціла".

## 37.

Ах, вы, коні аднайскія, (?)
Ня п'юць вады дунайскай,
Да за Дунай паглядаюць,
Гдзе казакі ў карты граюць,
Сабе дзеўкі намаўляюць:
    "Едзь ты, дзеўка, едзь ты з намі,
    Да і з намі жаўнярамі;
    Да ў нас жыця харошая,
    Да ў нас поля грашавоя,
    Да ў нас рэкі мядавыя,
    Да ў нас трава шалковая,
    На падвор'ю перац родзіць,
    Па гуліца сам Бог ходзіць".
Едзям поля і другоя,
На трэцяя конь ступая.
    "Станьма, брацца, паслухайма,
    Штота ў леся зашумела,
    Чы зязюля закавала,
    Чы салавейка шчабеча?"
Ні зязюля то кукуя,
Ні салавейка шчабеча,
Плача маці па дзіцяці:
    "Каго буду рана пабуджаці?
    Гадавала я, пясціла
    Чужым людзям на паругу,
    Чужой маці на паслугу".
Каб ты дзеўка розум мела,
Ня ехалаб ты за намі,
Бо ў нас жыця то худоя,
Ў нас поля крамяноя,
Ў нас рэкі крывавыя,
Ў нас трава разакова[1]
На падвор'ю палын родзіць,
Па гуліцы сам чорт ходзіць.

---

[1] *Разак, цвёрдая расліна, хутчэй за ўсё - асака.*

## 38.

Цякла рэчка край мястэчка,
А другая край Дуная.
Жыла дзеўка прамудрая,
Вяла коні да Дуная.
Тыя коні сапуць, храпуць
І дунайскай вады ня п’юць.
Там казачынкі ехалі,
А дзяўчына хусты прала.
"Кідай, дзяўка, хусты праці,
Да едзь з намі ваяваці.
Ў нас поля грашавоя,
Ў нас горы хлябавыя,
Ў нас рэчкі мядавыя".
Дурна дзеўка паслухала,
Да ў стрымёны ўступіла,
З жаўнерамі паехала.
Едзя поля і другоя,
На трэцьцяя конь ступая,
Дзеўка казака пытая:
"Гдзе ў вас поля грашавоя,
Гдзе ў вас горы хлябавыя,
Гдзе ў вас рэчкі мядавыя?"
"Да ў нас поля жарствяныя[1],
Да ў нас горы трупавыя,
Да ў нас рэчкі крывавыя".

[1] Жарствяныя - жвіровыя.

## 39.

Дзяўчына ціха
Нарабіла ліха,
Пусьціла жаўнера
Да каморы ціха.
Жаўнер там прыбыўшы,
Прычыну зрабіўшы,
Асядлаў коніка,
На вайну паехаў.
Дзяўчынанка малада
Ўсю ночку ня спала,
Жалосьна плакала,
Усё лісты пісала
І на Волын слала
Да таго жаўнера,
Што верна кахала.
Жаўнер рана ўстаўшы,
Лісты прачытаўшы,
Жалосьня заплакаў
Дзяўчыну ўспомняўшы.
Пашоў ён да пана
І да гаспадара.

“Пусьці мяне, паня,
З Русі на Украіну:
Мела дзеўка сына
Прэз маю прычыну”.
“Асядлай, жаўнеру,
Каня варанога,
Дам табе, жаўнеру,
На помац другога”.

Жаўнер з войска едзе,
Да яе пад’язджая,
Яе ўся радзіна
Яго спатыкая.
“Бодай ця, жаўнеру,
Ліхая гадзіна,
Выраклася мяне
Мая ўся радзіна,
І айцец, і маці,
І радныя браці;
А з таго жалю
Мушу уміраці”.

**40.**

Ой, на гарэ, на гарэ
Чабан валы ганяя,
Шары гусі страляя,
Шары гусі страляя,
Дай на хлопцаў міргая.
"Ой, вы, хлопцы-малайцы,
Накажыця той дзеўца,
Што ў ядвабнай шнуроўца,
Што ў ядвабнай шнуроўца
І ў чорнам касяку[1]
Да стаяла ў даляку.
Няхай яна замуж йдзе,
Няхай яна мяне ня жджэ,
Бо я пісар малады,
Да того багаты".

Тоя дзеўка пачула,
За рэчанку ўскачыла,
Накапала карэня
Спад белага каменя;
Напарыла ў малацэ,
Устудзіла ў руцэ,
Частавала малайцы.
"Кіпі коран паволі,
Будзя часу да волі".

Ешча коран не ўскіпеў,
А ўжо пісар прыляцеў.
"На штож цябе прынясло,
Чы конічак, чы вясло?"
"Прынёс мяне сівы конь
Да дзяўчыны ў пакой,
Мусіць умеяш чараваць,
А да таго варажыць".
"Каб я ўмелаб чараваць,
Ня даждаўбы панаваць;
Каб я ўмелаб варажыць,
Ня даждаўбы панам жыць".

[1] Касяк - касынка на галаве.

**41.**

“Ой, дума мая ўсё жаўнерская,
Мысьлінкі мае кавалерскія.
Ні айцец жаніць, ні маці баюся,
Сам я жанюся, сам вясялюся.
Паехаўжа я да жаніціся,
Ўзяў я жонку да з чужой зямлі”.
Вышла маць сына прымаць.
“Вязе сынок сабе жоначку,
Для мяне старай ўсё нявестанка;
Прыму я сына зялёным віном,
А нявестаньку горкай атрутай”
Выдзі маці дай з новай каморы,
Пасьцялі, маці, белу пасцельку:
Едзя сыночак ўжо няжывы.
Бядуя маці, гдзе яго хаваці.
“Схаваю сына ў новам касцеля,
А нявестанку хоць пад касцёлам;
Пасажу на сына зялёны дубец,
На нявестанку белу бярозу”.
Раслі яны раслі, дай схыліліся,
Адзін да другога прытуліліся.
Бог зная, людзі кажуць,
Што верна любіліся.

**43.**[1]

Жылі чумакі
Чатыра гады,
Да і ня званлі
Прыгоды яны.
Ох, стала ім
Прыгодунка
Серад города:
Да адзін чумак
Ён хворы ляжыць.
Ніхто яго
Ня спрашывая,
Што яму баліць.
Прышоў да няго
Яго пан Атаман,
Ўзяў яго за ручанкі
І спрасіў, што баліць.
"Ох, ты, Атаманя,
Мой мілы паня,
Пішы дзенюшку
На палушку[2],
Адсылай дамой,
Адсылай дамой
Да айца маго.
Ой, Бог зная,
Бог ведая,
Чы буду ў яго".
Зааралі валы
Стаячы ў ярме:
"Памёр, памёр наш хворы
Ў чужой старане".
Скінуў чумак світу,
Скінуў і жупан:
"Валы мае палавыя,
Я ня вашы пан.
Ох, вы, чумакі,
Вы брацьця маі,
Выкапайця дол глыбокі
На глаза маі".
Пашлі чумакі
На магілачку,
Выкапалі дол глыбокі
За адзіначку.
Таго чумака прыхаранілі,
Ўсе яго таварышы,
Усе пасмутнелі.

---

[1] У арыгінале чамусьці стаіць нумар 43, але няма 42-га, магчыма, памылка друку, або думка пад нумарам 42 была выдалена цэнзурай.

[2] "Прыпішы паўгроша да гроша" - прымаўка.

***Тэкст знойдзены Леанідам Лаўрэшам.***
***Транслітарацыя і апрацоўка Станіслава Судніка.***

# АСТРЫНСКІ ПРЫХОД ВІЛЕНСКАЙ ГУБЕРНІ ЛІДСКАГА ПАВЕТА

## Прафесар Літоўскай семінарыі І. Юркевіч

## 1853 г.

**Юркевіч І. Остринский приход // Этнаграфічны зборнік, які выдаецца Імператарскім рускім геаграфічным таварыствам. Выпуск 1. Санктпецярбург, 1853. С. 283-293.**

Галоўнае месца Астрынскага прыхода ёсць мястэчка Астрына, якое ляжыць ад Вільні за 20, а ад Гародні за 7 міль. Гэта мястэчка, якое належала некалі да так званых сталовых маёнткаў польскіх каралёў, а цяпер казённае, падобна іншым мястэчкам нашых заходніх губерняў мае прывілеі, падараваныя яму польскімі каралямі. 16-га чэрвеня 1792 года кароль польскі Станіслаў Аўгуст пацвердзіў правы мястэчка Астрына, дыпломам пад назвай Renovationis, пісаным на пергаменце, залатымі літарамі, у Варшаве. Астрынскую царкву ў імя Збаўцы першапачаткова надзялілі фундушам цівун Шымка Мацкавіч і абшарнікі Зіневічы; а ў 1556 годзе 4-га жніўня, гэты фундуш павялічыў і пацвердзіў у Вільні кароль Жыгімонт Аўгуст. Выдатна, што гэтыя дакументы пісаны на славянскай мове і старажытным славянскім почыркам[1]. У іх гаворыцца, што пацверджанне фундуша Астрынскай царквы выклапатана стараннем папоў Івана Яновіча, Фёдара Антраповіча і дыякана Логвіна Апанасовіча; 30-га студзеня 1690 года гэтае пацверджанне заяўлена ў Лідскім гродскім судзе.

Па найноўшым падзеле прыходаў, Астрынскі прыход належыць да трэцяга класа і складаецца з 4457 душ абоега полу сялян, казённых і абшарніцкіх.

## Побыт

Народ, які жыве ў Лідскім павеце Віленскай губерні і належыць да Астрынскага прыхода, бедны. Галоўны занятак яго складае земляробства; але з-за малой прасторы зямлі, якая выдзяляецца для кожнага земляроба, і па прычыне гарыстай і пясчанай, а ў некаторых месцах і багністай глебы, ураджай хлеба наогул бывае бедны, так што многім сялянам да вясны не дастае збожжа, і яны сілкуюцца большаю часткай бульбай. Гандлю і прамысловасці тутэйшыя сяляне не ведаюць; таму, з-за недахопу хлеба, многія, асабліва вясною, церпяць крайнюю нястачу. Па той жа прычыне, самы целасклад іх і здароўе слабыя, а рост малы. Акрамя таго, неахайнасць і бруд у сялянскіх хатах наклікаюць на тутэйшых жыхароў шматлікія эпідэмічныя хваробы, якія, пераважна вясною, лютуюць па вёсках. Так, тут бываюць гарачкі, розныя сыпы і катаральныя хваробы. Многія пакутуюць так званым каўтуном.

[1] Дакументы напісаны на старабеларускай мове. - *Л. Л.*

## Адзежа

Адзежу тутэйшых сялян складае сярмяга з шэрага тоўстага сукна, і кажух. Больш зажытачныя апяразваюцца чорнымі паясамі, ваўнянымі ці рамянямі, якія спераду зашпіляюцца спражкаю з жоўтай медзі, ці паясамі іншага колеру, якія выробляюцца самімі сялянамі. Пажылыя мужчыны носяць круглыя ці чатырохкутныя суконныя шапкі, абкладзеныя авечаю ці цялячаю скурай. Маладыя хлопцы, пераймаючы людзей вышэйшага саслоўя, носяць шапкі з тонкага сукна, з брылямі. Абутак як мужчын, так і жанчын, складае па большай частцы лапці, падшытыя скурай (сабакамі); боты і чаравікі яны абуваюць толькі ў нядзельныя і святочныя дні, калі ідуць у царкву, ці ў горад. Замужнія жанчыны абгортваюць галаву доўгім кавалкам тонкага белага палатна (намёткі), а дзяўчаты носяць на галаве белыя ці каляровыя хусткі, завязваючы іх спераду ў кукарды.

## Мова

Мова тутэйшага простага народа ўяўляе сумесь рускай з польскай, але наогул яна бліжэй да рускай. Як усякая губерня, павет, нават вёска, мае некаторую асаблівасць у мове, так і тутэйшыя сяляне некалькі адрозніваюцца маўленнем ад сумежных з імі сялян Наваградскага павета Менскай губерні. Адрозненне больш за ўсё заўважаецца ў дзеясловах, якія сканчаюцца на *"ся"*, якое яны замяняюць на *"са"* і прамаўляюць цвёрда; напр. *"Што ты поваліўса, умарыўса, умурзаўса, упіўса"* і інш. Акрамя таго, у мове тутэйшага народа сустракаюцца асаблівыя словы; напр. *"каўбакі"* - хваёвыя палены, расколатыя ў лучыну; *"дразгі"* - лучына; часціца *"галаня"* ўжываецца для значэння мінулага часу; напр., калі хто пытае: *"Чы даўно прыходзіў"*, ці *"чы даўно паехаўшы"*, то адказваюць: *"Ды ўжо галаня"*. Зрэшты, больш яснае ўяўленне пра мову жыхароў Лідскага павета можна скласці па ніжэйпрыведзеных простанародных песнях.

## Характар і норавы

Цяжка вызначыць ступень адукаванасці, маральнасці і характар тутэйшых жыхароў, таму што ўсякая вёска мае свае звычаі, павер'і і забабоны, якія можна бачыць у хатнім і грамадскім жыцці сялян.

У рэлігійным плане яны наогул мала адукаваныя. Зараз многія навучыліся маліцца Богу на славянскай мове; але перш звычайна

маліліся на польскай. У стасунках з людзьмі вышэйшага звання тутэйшыя жыхары ласкавыя і рахманыя. Прывітанне мужыка ці бабы вышэйшай асобе заўсёды пачынаецца словамі: "Нех бендзе пахвалёны Езус"; за тым, пасля звычайнага прыступу: "Да Бога і да пана прыйшоў у такой справе", яны распавядаюць саму справу. Калі адзін сустрэнецца з іншым на дарозе, ці прыйдзе ў чужую хату, то нізка кланяецца і вітае так: "Пахвалёны Езус!", потым абодва паціскаюць адзін у аднаго правыя рукі, а левымі абдымаюць шыю, цалуюцца, і адзін пытае ў другога: "Чы жывыя ўсе сямейнікі, чы здаровы дзеткі вашыя, чы вясёлыя"; а той з падзякай адказвае: "Дзякуй за запытанне", і робіць такое ж пытанне; на гэта яму адказваюць: "Яшчэ капышкаюцца, дзякуй Богу". Калі такое ўзаемнае прывітанне адбываецца ў хаце, то просяць садзіцца; калі ж на рынку, ці ў карчме, то сустрэчныя частуюць адзін аднаго гарэлкаю, і кожны, па-чарзе, прапануе сваю гарэлку. Падвыпіўшы, разважаюць пра хатнія справы, мужчыны асобна ад жанчын; апошнія, размаўляючы паміж сабою, таксама п'юць, смяюцца, а часам і плачуць. Калі ж адзін зробіць іншаму якую-небудзь крыўду, той лаецца: "Злодзей ты, валацуга, шыбенік, лайдак, паганец" і інш. Сваркі даходзяць і да бойкі. Паміж жанчынамі таксама вельмі часта бываюць сваркі і лаянка. Моладзь у стасунках сваіх пераймае старых. Наогул тутэйшыя сяляне схільныя да сварак, да п'янства і да крадзяжу, якому навучыліся ў цыганоў, якія жывуць у мястэчку Астрыне. У адносінах з пабочнымі і незнаёмымі тутэйшыя сяляне хітрыя, падазроныя і зманлівыя, але дапамагаюць у патрэбе хутка, калі гэта можа прынесці ім выгаду. У выкананні сваіх намераў нясталыя.

## Звычаі пры хрэсьбінах

Пасля шчаслівых родаў, мужык, запрошаны быць кумам, прыходзіць у хату парадзіхі з хлебам, абгорнутым у белую хустку, і кладзе на стол. Кума прыносіць парадзісе бутэльку гарэлкі, запраўленай мёдам ці перцам. Пасля нядоўгачасовага пачастунку кумоў, спавівальная бабка, дабраслаўляючы нованароджанага знакам крыжа (тым часам усе, хто знаходзіцца ў хаце, таксама хрысцяцца), аддае яго кумам, якія адпраўляюцца да святара, для здзяйснення Св. Хрышчэння. Кумы прыносяць святару, разам з немаўлём, хлеб. Заўважана, што дзіця нясуць ці вязуць да хрышчэння большаю часткай увечар. Пасля хрышчэння, кума прыносіць дзіця дахаты і аддае спавівальнай бабцы, а бабка - маці, і зноў пачынаецца пачастунак, пасля якога падаюць вячэру, а затым падносяць падарункі кумам і спавівальнай бабцы. Падарункі

складаюцца звычайна з кавалка палатна і хлеба. На другі дзень кумы прыходзяць наведаць парадзіху і прыносяць ёй грачаную кашу і некалькі жытніх пірагоў. Кум, спрабуючы сваю кашу, кажа: "Няхай жа Бог нашага хрышчоніка (званага па імені) гадуе, ды долю яму гатуе", кладзе ў кашу, гледзячы па стане, 20 ці 30 капеек, і цераз спавівальную бабку аддае кашу парадзісе. Таксама пастурае і кума. Пасля таго бабка ставіць на стол міску вады з хмелем і аўсом, і просіць ва ўсіх гасцей грошай на мыла. Усе, хто знаходзіцца ў хаце, кідаюць у пастаўленую міску па некалькі капеек. За гэтым ідзе баль, які пачынаецца зваротам маці нованароджанага да кума: "Кум, зачынайце пірог, каб дзіця прэндзей гаварыла". Пасля гэтых слоў падаюць абед, а пасля абеду збіраюць грошы на гарэлку, і, распіўшы яе, разыходзяцца па хатах.

**Звычаі пры змовах**

Сваты, прыязджаючы ці прыходзячы ў хату нявесты, прыносяць з сабою гарэлку. Калі нявеста згодна ісці замуж, то накрывае абрусам стол і ставіць на ім чарку; сват налівае гарэлкі і прапануе яе нявесце, а яна бярэ яе і аддае бацьку. Бацька п'е звярнуўшыся да жаніха, калі жаніх тут жа знаходзіцца, ці да сваёй жонкі. Пасля таго нявеста адпраўляецца ў вёску і запрашае ўсіх сваіх родных. Калі яны збяруцца (прыносячы з сабой хлеб), здзяйсняецца змова (запоіны). Сваты застаюцца ў нявесты да наступнага дня. Па заканчэнні змовы, маці нявесты прыносіць на талерцы ў дарунак жаніху хустку, а свату некалькі локцяў палатна, і пакрывае гэтым палатном правае плячо свата, які ў такім выглядзе павінен прысутнічаць пры шлюбе. Жаніх, прымаючы хустку, кладзе на талерку 30 к. срэб. ці і больш. Пасля гэтага абраду сват ізноў дастае гарэлку, налівае і прапануе ўсім. Заўважана, што бацька і маці нявесты напаўняюць жытам першую бутэльку, з якой пілі гарэлку, і, перавязаўшы яе поясам, аддаюць свату і жаніху перад іх ад'ездам дахаты.

**Звычаі перад шлюбам і пасля шлюбу**

Калі жаніх прыедзе ў хату нявесты, яе бацька ці маці сустракаюць яго з хлебам і півам на парозе, а ён ім нізка кланяецца; уводзяць яго ў хату, і саджаюць за стол, разам з усёю яго дружынаю. Пасля таго бацька ці маці выводзіць нявесту і саджаюць яе, таксама з дружкамі і жанчынамі, за іншым сталом. Тады настае баляванне: даюць абед і ўсе ядуць і п'юць, акрамя жаніха і нявесты, якія посцяцца да самага шлюбу. Падчас абеду бацькі нявесты зноў прапануюць падарункі - жаніху

хустка, а свату, дружкам і музыку па скрутку палатна; жаніх са свайго боку прывозіць нявесце чаравікі, набітыя поўсцю, і звыш таго дорыць яе грашыма, кідаючы ёй іх за "каўнер". Пасля абеду, жаніх і нявеста ўсім кланяются, а бацька, адпраўляючы іх у царкву, выпраўляе з хаты з півам і хлебам. На дарозе ў царкву, жанчыны спяваюць песні, а адзін з мужчын грае на скрыпцы.

Пасля шлюбу бацька ці маці сустракаюць маладых таксама з хлебам і півам. Вяселле ўласна пачынаецца пасля гэтай сустрэчы; тады спяваюць розныя песні, гуляюць і скачуць, у другую ці трэцюю гадзіну ночы вячэраюць і працягваюць весяліцца ўсю ноч.

На наступны дзень маладой падстрыгаюць на галаве валасы з чатырох бакоў , апранаюць ёй на галаву палатняную хустку (намітку) і спальваюць падстрыжаныя валасы. Жанчыны дораць маладую палатном, а мужчыны грашыма.

На другі ці на трэці дзень пасля таго пякуць каравай, гэта значыць пшанічны пірог, які падзяляюць паміж усімі.

Нарэшце адвозяць маладую ў хату яе мужа; прыехаўшы туды, яна дорыць усіх сямейнікаў ці кавалкам палатна, ці ручніком, а пабочных, якія прысутнічаюць пры гэтым, - невялікімі паясамі.

Пасля вяселля першая справа маладой, як новай гаспадыні хаты - ісці да студні па ваду і прынесці вядро вады; у гэтым дапамагае ёй малое дзіця, якому яна дорыць пояс. Затым яна прадзе поўсць ці воўну, прывезеную ёй у чаравіках і падзяляе паміж сямейнікамі каравай. Гэтым вяселле і заканчваецца.

**Вясельныя песні**

Лецелі гусенкі праз сад,
Клікалі Анульку па пасад.
"Чы я так пайду, як стаю?
Засцелеце каберац, я ступлю."
Чаму не кукавала сівая зязюлька,
Як сады зацвіталі?
Чаму не плакала красная Анулька,
Як цебе запівалі?
Ой! кукавала зазюлька на дубе,
Плакала Анулька пры шлюбе;
Кукавала зязюлька на бярозе,
Плакала дзевачка ў дарозе;
Кукавала зязюлька на тынку,
Плакала дзевачка па вянку.

**Песня, якую спяваюць, дзелячы каравай:**

Папытайцеся добрыя людзі,
Што ў гэтым караваі будзе?
Ой, тры бочкі пшанічнае мукі,
Ды дзве бочкі крынічнае вады,
Ды тры фаскі дрэвічага масла *(ад маладых кароў)*,
Ды тры капы яіц
Ад маладых курыц...

*Спяваюць прытанцоўваючы:*

Каравайніцы, піяніцы,
Ды ўсё цеста пакралі,
Ды ў кешонкі паклалі.
Стала цеста бушаваці,
Стала кешонкі распіраці.

*І інш.*

## Звычаі пры пахаваннях

Адразу пасля вынасу нябожчыка з хаты вымятаюць усю хату, мыюць стол і лавы, паляць печку, пякуць хлеб і падрыхтоўваюць вячэру, на якой першая страва абавязкова нішчымная, - вадкі кісель з грыбамі (жур). Пасля першай стравы моляцца за нябожчыка, з гучнымі галашэннямі, заклікаючы яго з імі да стала, і выліваюць на стол лыжку ўсякай стравы. Тое самае робяць у дні памінання царквой нябожчыкаў (на памінкі ці інакш на Дзяды), з тым адрозненнем, што тады выходзяць з халупы на двор да варот і з плачам заклікаюць памерлых родных, наступнымі словамі: "Татачка, матачка, просім вас на вячэру". Тым часам усе сямейнікі сціпла і ціха ядуць і п'юць. Увосень ставяць на магілах драўляныя крыжы, кладуць драўляныя дошкі ці каменныя пліты (прыклады) і ўладкоўваюць сталы за памерлых.

## Рысы грамадскага побыту

У справах, якія тычацца гаспадаркі, усякая вёска кіруецца агульным меркаваннем і згодай дасведчаных у гаспадарцы людзей, якія, прыступаючы да якой-небудзь палявой працы, напр. да ворыва ўвесну

землі, да пасеву, ці да касьбы, збіраюцца на вуліцы, ці ідуць у карчму; тут старыя падаюць сваё меркаванне, калі менавіта пачынаць тую ці іншую працу. Таксама бывае і ўвосень: што робіць тым часам адзін гаспадар, тое робіць і іншы; калі адзін наладжвае баль ці здзяйсняе памінкі па памерлых, то і іншыя робяць тое самае.

**Зажынкі**

На пачатку жніва гаспадыня хаты выходзіць у поле адна ці з іншымі жанчынамі, бярэ з сабою хлеб, соль і гарэлку, і нажаўшы сноп жыта, садзіцца на яго і спявае працягла наступную песню:

Дзякуй Богу, за ласку святую,
Што я новага хлеба даждала
І снапок жыта нажала.
Буду жаці, не ляжаці,
Каб капу жыта нажаці;
Нажаці змалаціці,
Кашы наварыці
І дзяцей пакарміці.

Іншыя жанчыны дапамагаюць ёй спяваць. Пасля таго, п'юць гарэлку, закусваюць і ахвотна працягваюць працу.

**Дажынкі**

Скончыўшы жніво жыта, жняцы плятуць вянок з жытніх каласоў, упрыгожваюць яго кветкамі і прыносяць у хату гаспадара, які сустракае іх з хлебам соллю. Вяртаючыся з поля, жняцы спяваюць розныя песні, а набліжаючыся да хаты - наступную:

Засцілайце сталы, лавы,
Едзе да вас госць небывалы;
Ён не шмат пабывае,
Зноў у поле ад’язджае...
*І інш.*

Прынесены вянок кладуць на хлеб і віншуюць гаспадара з заканчэннем жніва. Узрадаваны гаспадар частуе працаўнікоў, якія, падмацаваўшы свае сілы гарэлкаю, спяваюць розныя песні, весяляцца, часам нават скачуць, і так святкуюць дажынкі. Паміж іншымі песнямі заўсёды спяваюць наступную:

У нас сёння дажыначкі;
Дасць пан нам гарэлачкі
З поўнае талерачкі.
Наш пане Кароліку!
Пускай нас да доменьку!
Не пускаеш да доменьку,
То гатуй нам вячэраньку,
Ды сцялі нам пасцеленьку,
Вячэраньку смачненькую,
Пасцеленьку мякенькую.

## Забавы

На Нараджэнне Хрыстова, на Новы год, на запускі і ў іншыя святочныя дні, у вёсках бываюць так званыя ігрышчы. Ігрышчы не што іншае як зборы моладзі па вечарах у корчмах, дзе адзін грае на скрыпцы, а іншыя скачуць. На Нараджэнне Хрыстова і на Новы год увечар ходзяць ад адной хаты да другой і спяваюць песні пад вокнамі; гэта завуць "валачонным". На запускі як моладзь, так і старыя возяць адзін аднаго на санках і перакульваюць, а маладыя хлопцы прывязваюць дзяўчатам невялікія драўляныя калодкі, у пакаранне быццам бы за тое, што яны не выйшлі замуж на працягу мясаеду, але ўласна з тою мэтай, каб дзяўчаты, жадаючы вызваліцца ад калодак, купілі ім гарэлкі. На Вялікдзень фарбуюць яйкі, якімі пасля б'юцца. Вясною і ўлетку хлопчыкі гуляюць на вуліцы ў "кацёлку" і ў "свіню", а дзяўчаты - у "крутавею" і "мяцеліцу".

## Павер’і і забабоны

Тут, як і ўсюды, просты народ мае шмат павер’яў і забабонаў. У гэтых адносінахі жанчыны, здаецца, пераўзыходзяць мужчын. І тыя, і другія маюць свае святочныя дні, у якія не займаюцца вядомымі працамі. Так, у Калядныя святы жанчыны не прадуць; прыпаловенная серада святкуецца, і мужчыны ў гэты дзень не аруць, таму што ў адваротным выпадку чакаюць дажджлівага і мокрага лета; не робяць таксама нічога ў дзень Св. Алімпія; 24-га чэрвеня, у дзень нараджэння Св. Іаана Хрысціцеля, устаюць да ўзыходу сонца, каб паглядзець, як яно будзе граць; у гэты ж дзень раніцай збіраюць траву (мінушкі) і кладуць на вокны крапіву, для адгону чараўніц ці ведзьмаў і інш. Пад чараўніцамі тут разумеюць жанчын, якія быццам бы маюць сувязі са злымі духамі,

і з іх дапамогай дапамагаюць, ці шкодзяць людзям; мужчын, якія маюць сувязі з нячыстаю сілаю, завуць "знахарамі", і як чараўніцам, так і знахарам прыпісваюць мастацтва замаўляць розныя хваробы, адгадваць прычыны няшчасцяў, што спасцігаюць людзей і да т. пад.

## Загадкі і адгадкі

Чатыры дзяды назад барадамі - *конскія капыты*.

Крывенькі дзядок усё поле абегаў - *серп*.

Хто наўперад у цэркаў уваходзіць? - *ключ*.

Бегалі чырычыкі па ліпавым мосце, шусць у мяшок - *гарох*.

Чатыры чатыраначкі пабеглі ў паляначкі, прынеслі качку, пасадзілі ў закутку: "Сядзі качка тут, бо табе дадзены кут" - *калёсы, на якіх возяць з поля хлеб у гумно*.

Быўшы ў нас баран, на ём не гэтулькі воўны, колькі ран - *калода, на якой дровы сякуць*.

Чатыры панічыкі пад адным капелюшом сядзяць - *ногі ў стала*.

За лесам палянскім, за полем лясанскім, крычыць Кацярына голасам шатанскім - *труба*.

Чорненькая, міленькая ў караля на абедзе - *перац*.

Праз акно цягне воўк сукно - *дым*.

Сухая пятніца косці грызе - *часалка*.

Воўк жалезны, а хвост канапляны - *іголка з ніткай*.

## Прымаўкі

Пакарміўшы скацінку, то заробіш і ніўку.

У дбалага гаспадара на пручмені расце трава, а ў гультая крапіва.

Кінь перад сабою - знойдзешь за сабою.

Прыкусі язык, калі ён табе свярбіць.

***Тэкст знайшоў Леанід Лаўрэш.***
***Апрацаваў Станіслаў Суднік.***

# Дажынкі на Літве[1]

У другой палове жніўня 1887 г., дзень заканчэння жніва быў адзначаны вясковым святам у Шаўрах[2], у сына знанага гісторыка Літвы, п. Баляслава Нарбута[3]. Але і ў многіх іншых маёнтках гэтай правінцыі, гэткія ж святы маюць такі самы характар, і таму дарэчы будзе пазнаёміць з ім больш шырокае кола грамадскасці, тым болей, што тыя, хто бачыў гэтае свята сваімі вачыма, можа пацвердзіць праўдзівасць майго апісання.

У ахвоту ішло жніво ў чаканні абяцаных дажынак, і калі надышоў чаканы дзень, перад дваром[4] былі выстаўлены сталы з рознымі прысмакамі, такімі як: булкі, хлеб, сыр, агуркі, халоднае мяса - тут гасцінна чакалі жняярак і касцоў якія ішлі на свята з урачыстымі спевамі[5]. Гукі песні, якую разам з запявалай паўтараюць дзясяткі галасоў, дзякуючы сваім нязмушаным і натуральным словам, узрушалі сэрца:

Дажалі жыта да аблогу
І падзякавалі Пану Богу.
Плён жыта, плён
Ды з усіх старон.

Адмыкай пане шырай вароты,
Нясём пану палёў пазалоту.
Плён жыта *і г.д.*

Засцілай пане сталы і лавы,
Ідзе да пана госць небывалы.
Плён жыта *і г.д.*

Дажалі жыта аж да граніцы,
Не шкадуй, пане, мёду шкляніцы.
Плён жыта *і г.д.*

Там, дзе авечкі блеюць заўзята,
Дажалі жыта нашы дзяўчаты.
Плён жыта *і г.д.*

Па полі скачуць рабыя жабы,
Дажалі жыта старыя бабы.
Плён жыта *і г.д.*

Каб мы здаровы плён плянавалі,
Другога году так дачакалі.
Плён жыта *і г.д.*

У панскім садочку цвёрдыя слівы,
Нашы паночкі да жнеяк зычлівы.
Плён жыта *і г.д.*

А як на неба ўсплылі аблокі,
Нашы панове ўзяліся ў бокі.
Плён жыта *і г.д.*

Як па дзяцінцы качачкі ходзяць
Нашы панове ў золаце ходзяць.
Плён жыта *і г.д.*

Панскі садок у цянёчак кліча,
Нашы панове тысячы лічаць.
Плён жыта *і г.д.*

Там на аблоках сінія пасы,
Нашы панове носяць атласы.
Плён жыта *і г.д.*

У садзе растуць розныя кветкі,
У нашых паноў прыгожыя дзеткі.
Плён жыта *і г.д.*

Не шкадуй, пане, белага сыра,
Дасць Пан Бог табе слаўнага сына.
Плён жыта *і г.д.*

Не шкадуй, пане, коней-дрыкгантаў,
А пасылай нам ужо музыкантаў.
Плён жыта *і г.д.*

Не шкадуй, пане, коней-агераў,
Пашлі нам пасла па кавалераў.
Плён жыта *і г.д.*

Дажалі жыта да каласочка,
Пазнай нас, пане, па галасочку.
Плён жыта *і г.д.*

Што там, што там за стук чуваць?
Ідзе пан для жнеяк гарэлкі шукаць.
Плён жыта *і г.д.*

Пан шукае, пані не чуе
І сваіх жнеечак мёдам частуе.
Плён жыта *і г.д.*

Просім паноў стаць на ганочак
І прыняць ад нас жыта вяночак,
Плён жыта *і г.д.*

Каб мы здаровы плён плянавалі,
Другога году так дачакалі.
Плён жыта, плён
Ды з усіх старон.

Гэты пранізлівы і прыгожы спеў, пачаты яшчэ ў полі, пры павольнай хадзе з сярпамі на плячах, заканчваецца пасля заходу сонца перад дваром. Тады запявала выходзіць наперад і зняўшы з галавы залацісты вянок са збожжа, нясмела, з відочным узрушэннем выказвае сваё зычэнне такімі словамі:

Віншую пана тым вянком, боскім дарам,
Вянок гэты па полі сабраны,
З каласоў складаны,
Маці Божай прысвячаны.
Хай Маці Божая дабраславіць
Пана нашага гэтым вянком:
Каб да гумна копамі,
Да спіжарні бочкамі,
Да шкатулкі тысячамі
Прыносіў.

Потым пявуння здымае з сябе вянок і кладзе яго перад сабой, а наўзамен прымае ад гаспадароў хлеб, соль і грошы. Пацалаваўшы рукі

панам, весела вяртаецца да сваіх сябровак. Музыкант на скрыпцы зайграў польку, і пасля гарэлкі з закускай, усе ахвотна танчаць.

Праз некалькі гадзін запанавала цемра, і пачаў капаць дождж. Добрыя гаспадары насцеж адчыняюць дзверы свайго дома і ахвяруюць перадпакой і ядальню для забавы, да якой самі заахвочваюць сялян, маючы для кожнага ласкавае слова і кілішак. Для нашага селяніна алкаголь ёсць нектарам, які ўзнімае настрой і здымае жыццёвы смутак, без яго падняць селяніна вельмі цяжка. Ад гарэлкі адмаўляюцца толькі тыя, хто ад яе зарокся.

Усе бавяцца з вялікай бадзёрасцю. Ніхто з гаспадароў дома, нават ад п'яных сялян, не адчувае нават самай малой нягжэчнасці. Яна засцярагаюць самі сябе: "Адсунься, браце, бачыш, тут пані стаіць", - "Асцярожна, Марысю, глядзі, каб танцуючы, не ўразіла паненкі", - "Паненачка, прашу сесці на гэтае крэсла, бо вядома, што п'яны селянін можа часам і наступіць ...". Гэтыя і падобныя словы чутны ад сялян, якія адпачываюць.

***Бірута.***

***Пераклад тэксту і каментары Леаніда Лаўрэша.***
***Апрацоўка песень Станіслава Судніка.***

[1] Biruta (Amelia Derewinska). Dozynki na Litwie, Szawry, pow. Lidzki / / Wisla. 1889. T. III. z. 1. S. 92-94.

[2] Віленская губерня, Лідскі павет.

[3]Баляслаў Нарбут (1843 г.н.), паўстанец 1863 г., ад'ютант кіраўніка паўстання на Лідчыне - свайго брата Людвіка. Пасля паўстання быў прыгавораны да смяротнага пакаранне, якое было заменена на 15-ці гадовую ссылку ў Сібір. Пасля вяртання ў Шаўры, заняўся гаспадаркай. Тут ажаніўся са сваёй кузінай Габрыэляй Нарбут, дачкой Валерыя Нарбута, уладальніка Капыля. Памёр ад набытых у Сібіры сухотаў у 1889 г., пакінуўшы двух сыноў: Зыгмунта ды Тадэвуша і адну дачку. У 1871 г. у Шаўры вярнулася жонка Тэадора і маці Баляслава, Крысціна Нарбут (1813-1899), якую пасля паўстання, за "няправільнае выхаванне дзяцей" выслалі ў глыб Расіі. На момант напісання гэтага артыкула яна жыла з сынам ў Шаўрах. - *Л. Л.*

[4] Маецца на ўвазе, перад маёнткавым домам Нарбутаў. - *Л. Л.*

[5] Мужчыны толькі косяць сена, кабеты сярпамі жнуць збожжа. Спяваюць толькі кабеты.

## ЗМЕСТ



**Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета XIX стагоддзя**.
Этнаграфічны зборнік, 2023 г. На беларускай мове. Ліда, 72 с.
Наклад 120 асобнікаў. ПУП “Пружмень”.
Папера офісная. Друк RISO. Фармат А-5.

